

Крыстына Цеслюк→5



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714





Зоя Майстровіч→12


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl



№ 43 (2998) Год LVIII | Беласток, 27 кастрычніка 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)






На плечкі дзетак вялікі аловак ускладала дырэктар **Тамара Крайнік**, пасвячаючы наймалодшых вучняў у першакласнікі

# Малыя беларускія арэшкі

У Непублічнай падставовай школе ў Арэшкаве Дзень настаўніка адзначылі 15 кастрычніка і быў ён спалучаны з пасвячэннем наймалодшых вучняў у першакласнікі. На плечкі дзетак вялікі аловак ускладала новая дырэктар школы Тамара Крайнік, якая выдатную большасць свайго прафесійнага жыцця — з 1978 года па 2000 год — прысвяціла менавіта Падставовай школе ў Арэшкаве. Вярнулася сюды пасля 13-гадовага перапынку, калі была дырэктарам Публічнай гімназіі ў Дубінах, каб з новай ангажаванасцю і новымі сіламі працаваць у карысць арэшкаўскай школы і мясцовага грамадства. Памяняласля таксама вядучая школу ўстанова. Непублічную школу ў Арэшкаве зараз вядзе Асветнае аб'яднанне дапамогі пакрыўджаным і інвалідам «Адукатар» з Ломжы, якое курыруе шмат непублічных школ на Падляшшы і па-за рэгіёнам.

— Мне вельмі прыемна было, калі бацькі звярнуліся да мяне з запытаннем ці я не згадзілася б стаць дырэктарам непублічнай школы. Гэта было для мяне свайго роду вылучэннем, а на станоўчае рашэнне (сп. Крайнік была дырэктарам арэшкаўскай школы ў 1991-2000 гг. — А. М.), мела мая эмацыянальная сувязь са школай і мясцовым насельніцтвам, з якім я добра пазнаёмілася працуючы тут 22 гады. Тут таксама мая Бацькаўшчына, бо выводжуся я з Доўгага Броду, — сказала дырэктар Тамара Крайнік.

Школьнае мерапрыемства пачалося з выступаў наймалодшых дзетак. Пасля дырэктар пасвячала наймалодшых у першакласнікі. Пазней са сцэнкамі і вершамі запрэзентаваліся старэйшыя вучні. Вялікая частка выступаў была па-беларуску, паколькі ўсе вучні арэшкаўскай школы вучацца беларускай мове. У гэтым годзе роднай мове вучыць Ірэна Герасімюк. Яна падрыхтавала мастацкую частку, у галоўным на аснове твораў Віктара Шведа, ураджэнца непадалёкага Мора. Дзеткі праспявалі песню «Мы першакласнікі» і выступілі са сцэнкай «Не рашаецца задачка» на словы нашага паэта.

Ад імя бацькоў пажаданні плённай працы і задавальнення з работы з вучнямі перакапала настаўнікам Наталля Суліма, а ад імя аб'яднання «Адукатар» — Тадэвуш Зарэмба.

— Вас нямнога, але затое тут цудоўныя дзеткі. Будзем усміхацца да бацькоў, каб радзілася тут як мага больш дзетак, што дазволіць школе паспяхова дзейнічаць. У школу прыйшла працаваць вопытная дырэктар, а настаўнікі з багатымі ведамі і вялікім сэрцам будуць займацца адукацыяй дзетак, за што мы ім сёння вельмі дзякуем і віншуем з Днём настаўніка, — заявіў Тадэвуш Зарэмба.

Святкаванне Дня настаўніка закончылася размовамі за кавай, гарбатай і салодкім цестам, у якіх прынялі ўдзел настаўнікі і бацькі. Вучням таксама быў падрыхтаваны салодкі пачастунак.

— Я асабліва люблю ўрокі беларускай і польскай моў і ахвотна прыходжу ў школу на занятк, бо атмасфера тут вельмі добрая, — заявіла Магдалена Мішчук, самая актыўная вучаніца ў час мастацкай часткі. Дапамагала яна наймалодшым і была галоўным завадатарам сярод найстарэйшых выканаўцаў. Яе сябры Крыстыян Яцко, Марцін Аўярчук і Кацпар Аляйніцкі пацвердзілі, што ў арэшкаўскай школе *файна* вучыцца.

— Нашыя дзеткі радыя, што вучацца на месцы, а мы, настаўнікі, стараемся, каб зацікавіць іх навукай і як мага найлепш навучыць новаму, — гаварыла настаўніца пачатковага навучання Анета Алексюк.

Наталля Суліма выявіла радасць, што яе дзеткі надалей могуць вучыцца на месцы і што школу павядзе аб'яднанне «Адукатар» з Ломжы, у якога ёсць вопыт арганізаваць невялікія школы з невялікай асветнай субвенцыяй. Пахваліла яна дырэктар Тамару Крайнік за асаблівую актыўнасць у падрыхтоўцы новага навучальнага года.

— У дырэктар ёсць файныя ідэі наконт працы школы, а мы рады, што нашыя дзеткі могуць надалей тут вучыцца, — заявіла Анна Вілюк, якая ведае дырэктар Тамару Крайнік яшчэ з перыяду сваёй навукі ў арэшкаўскай школе.

Зараз у Арэшкаве вучыцца 16 вучняў і займаецца 5 дашкольнікаў.

— Звяртаючы ўвагу на козыры нашай школы, я маю намер пераконваць бацькоў з Арэшкава і наваколля, якія зараз пасылаюць дзяцей вучыцца ў гайнаўскія і іншыя школы, каб аддалі іх у арэшкаўскую школу. Буду таксама заахвочваць бацькоў дзетак у дашкольным узросце, каб пасылалі іх да нас. Бацькі арэшкаўскіх школьнікаў моцна ангажуюцца ў працу школы. Яны не толькі гатовыя дапамагаць, але таксама выходзяць са сваімі прапановамі, якія можам супольна рэалізаваць. Гэта таксама вельмі важны козыр нашай школы, — пахваліла бацькоў дырэктар Тамара Крайнік. — Сродкаў з асветнай субвенцыі хопіць на дзейнасць школы, але пры ўмовах, што будзем ашчаднымі. У невялікай школе, са сціплым бюджэтам можна таксама паспяхова навучаць. Мы ўжо пачалі працаваць па праекце «Захавай цвярозы розум», карыстаючыся сродкамі з гміннага бюджэту. Прадбачваем наладзіць супрацоўніцтва з вучнямі з Дубін і Новага Корніна ды запрасіць іх да сябе на супольныя мерапрыемствы — спартыўныя гульні, дыскатэку і агляд фільмаў. Вучні будуць праводзіць размовы з жыхарамі вёсак, ладзіць конкурсы.

Калі дзеткі ў Арэшкаве вучацца ў класах з невялікай колькасцю вучняў, настаўнікі маюць магчымасць працаваць намнога больш індывідуальна, чым у большых школах і робяць гэта добра, з вялікай ангажаванасцю. Мне найлягчэй ацаніць арэшкаўскую школу на падставе таго, што робіцца ў беларускай справе. Вучні паспяхова прымаюць удзел у гаворкавых і дэкламатарскім конкурсах ды ў прадметным конкурсе па беларускай мове. Школьнае мерапрыемства паказала, што арэшкаўскія вучні патрапяць выступіць перад публікай па-акцёрску. У гэтым школьным годзе дзеткі з арэшкаўскай школы ізноў выпісваюць «Ніву» і працуюць з нашым тыднёвікам на занятках беларускай мовы і ў святліцы, калі там займаецца з імі настаўніца беларускай мовы Ірэна Герасімюк. «Ніва» трапляе ў хаты больш чым паловы школьнікаў, пачынаючы з другога класа.

— Нашыя дзеткі ахвотна чытаюць «Ніву». Любяць рашаць крыжаванкі і разглядаць артыкулы ў «Зорцы». Я стараюся, каб заняткі па беларускай мове былі разнароднымі. Мы спяваем, гуляем, ходзім на экскурсіі. Знаёмімся з навакольнай прыродай, стараемся апісаць яе па-беларуску. Вучні ахвотна прымаюць удзел у беларускіх конкурсах. Я рада, што ў нашую школу трапіў «Лемантар» Аліны Ваўранюк, па якім мы ўжо працуем. Найбольш аўтарскіх заняткаў трэба праводзіць у першым класе, дзе вучні яшчэ не пішуць і не чытаюць, — сказала настаўніца Ірэна Герасімюк.

Аб'яднанне «Адукатар» выступіла за еўрасаюзныя сродкі на арганізаванне прадшкольнага аддзялення ў Арэшкаве ў 2014 годзе.

— Ужо прызначаны еўрасаюзныя сродкі на прадшкольнае аддзяленне. «Адукатар» будзе аб'яўляць аўкцыёны на выкананне гэтай інвестыцыі. У рамках праекта маем атрымаць сродкі на рамонт і аснашчэнне прадшкольнага кабінета, туалета, абсталяванне кухні і куплю мэблі, школьных прылад і дапаможнікаў. У прадшкольным аддзяленні маюць займацца дзеткі ва ўзросце 3-5 гадзікаў, бо 6-гадкі пойдуць у першы клас. Зараз дзеткі займаюцца ў школьнай святліцы, з якімі, па чарзе, працуюць настаўнікі, — удакладніла дырэктар Тамара Крайнік.

У Непублічнай школе ў Арэшкаве ў IV-V класах пачалі вучыць таксама новаму прадмету, накіраванаму да вучняў нацыянальных меншасцей.

— Прадмету «Вучоба ўласнай культуры і гісторыі» трэба вучыць без падручніка, паводле сваёй аўтарскай праграмы. На ўроках вучні састаўлялі ўжо генеалагічныя дрэвы. Хачу знаёміць вучняў з бацькаўшчынай. Плануем больш працаваць па-за школай, праводзіць размовы са старэйшымі людзьмі, запісваць ад іх песні і аповеды. Будзем знаёміцца з даўняй вясковай архітэктурай, выглядам хат звонку і ўсярэдзіне. З гэтай мэтай трэба будзе адправіцца на экскурсію па Арэшкаве або паехаць у іншую вёску, — сказала Ірэна Герасімюк.

Вучням асабліва даспадобы экскурсіі па сваёй бацькаўшчыне.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**





# Мужчына — гэта песня...

„Мужчына не ўмее жыць рэччу сярод сцен, мужчына — гэта песня, а не проста надпіс „М”, — спявалася неяк у старым хіце рок-гурту „Цэнтр”. Канец дваццатага стагоддзя, і яшчэ больш бягучы час прайшлі пад знакам татальнай страты мужчынскасці. Беларускія мужчыны сёння — гэта ў пераважнай большасці баязліўцы і канфармісты. Яны баяцца ўсяго — прэзідэнта, начальніка на сваім працоўным месцы, кантралёра, кожнага чалавека ў форме — не толькі міліцыянта, але і вайскоўца, і нават чыгуначніка ці пажарніка, калі тыя ў службовай фуражцы. Але больш за ўсё на свеце беларускія мужчыны баяцца сваіх жонак. Жонкі вызначаюць калі ім можна паехаць на рыбалку, ці можна выпіць куфаль піва з сябрамі, у колькі яны мусяць выйсці і вярнуцца дадому, рэгламентуюць колькі грошай і на што яны могуць патраціць. У гэтым сэнсе грамадства Беларусі надзвычай матрыярхальнае. Так што на выяўленне сваёй грамадскай пазіцыі ў гэтых мужчын зусім няма ніякага права і шанцаў. Сваю прыніжанасць, зацюканасць, прыгнечанасць яны звычайна выяўляюць у агрэсіі да слабейшых навакольных, свой страх хаваюць і апраўдваюць тым, што яны нікому не верацць, што ад іх нічога не залежыць і што ўсе ўсё роўна іх падмануць. Таму, маўляў, нікуды яны не ўмешваюцца і нічога іх не кранае, не датычыць. Калі з вечара на такога мужчыну накрычыць жонка, а з раніцы начальнік на працы, то ён пойдзе і абавязкова аналагічна накрычыць на сваіх падначаленых. А калі падначаленых у яго зусім няма, то ён пойдзе і ў закутку цішком, патаемна сцебане паўлітра пладова-ягаднага чарніла, купленага за схаваныя ад жонкі пасля атрымання заробку грошы. Чаго можна чакаць ад такіх мужчын?

З мужчынамі не толькі ў Беларусі праблемы. Сучасная Еўропа сямімільнымі крокамі ідзе шляхам сцірання полавых прыкмет — мужчынападобныя жанчыны і жаночападобныя мужчыны — гэта асноўныя мадэлі сучаснага еўрапейскага грамадства. Да поўнага абсурду ў гэтым даходзяць. Слова „Europejczyk” у звычайным перакладзе з польскай мовы на беларускую абазначае „еўрапееец”. Але ў беларускай мове гэтае слова „еўрапейчык” мае крыху іншае значэнне і сэнсавае адценне, адрознае ад еўрапейца. Сёння якраз маем кантынент еўрапейчыкаў, а не еўрапейцаў. Аднолькавыя, як з інкубатара палітыкі, аднолькава апранутыя і з аднолькавымі словамі, стандартнымі фразамі-клішэ. Уяўляю, як нудотна працаваць заходнім журналістам у творчым плане. Таму такія палітыкі і такая палітыка — ні мужчынскай логікі, ні паслядоўнасці, ні вартасці слова няма. За рэдкім выняткам, канешне.

Прычым у сённяшняй псеўдаліберальнай Еўропе нельга быць кансерватыўным і правым. Можна левым, можна ліберальным, можна зялёным ці страката каляровым. Можна якім заўгодна, але не кансерватыўным. У культуры з гэтым яшчэ горш, чым у палітыцы. Вось, прыкладам, у Францыі знакамітаму актору Алену Дэлону зрабілі закіды, што ён прыналежыць да правай палітычнай партыі Нацыянальны фронт. Маўляў, як можа чалавек, які выказвае сваю прыхільнасць да гэтай партыі (афіцыйнай, заўважце, партыі, кандыдат ад якой Марын Ле Пэн была трэцяй на апошніх прэзідэнцкіх выбарах), узначальваць журы „Міс Францыя”. Дэлон зрэагаваў на гэта проста — культурна „паслаў” усю гэтую нікчэмную публіку і пакінуў журы. Цяпер у гэтых конкурсах могуць браць удзел ужо і трансвестыты і хто заўгодна. Сапраўдным мужчынам у такіх журы рабіць няма чаго. А Ален Дэлон застанецца ў памяці і гісторыі не толькі як выдатны актор, але і як чалавек з мужчынскай пазіцыяй. У адрозненне ад іншага славутага французскага артыста Жэрара Дэпардзьё, які застанецца ў памяці таксама выдатным акторам, але чалавекам, які кінуў сваю краіну ў няпросты час і цяпер за грошы забаўляе дыктатараў кшталту чачэнскага Кадырава.

Так што і Беларусі, і усёй Еўропе, як ніколі патрэбныя сапраўдныя мужчыны, каб яны не вырадзіліся як клас, не пераўтварыліся канчаткова ў бясполых істот і не павыміралі як маманты.

„Успомніце раманы і жудасці былін. І як былі мы рады за мужчын!”...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Клік-клік



Агульнапрынятае меркаванне, што палітыка, — у строгім сэнсе гэтага слова, — улада разбэшчвае, выклікае дрэнныя інстынкты і глушыць вышэйшыя пачуцці, пацвярджаецца паводзінамі і выказваннямі многіх дзяржаўных чыноў. Але датычыць гэта не толькі кіраўнікоў дзяржаў, урадаў або буйных партый. Ніжэйшую іерархію (улады), таксама святароў агорнутых расамі, у роўнай ступені яна прыпсоўвае. І чым больш прыпсоўвае, тым больш гавораць яны бесталковых недарэчнасцей, што акурат мне не дзіўна, таму што гэта добравядомы на працягу стагоддзяў метад заглушання смуроду разбэшчанасці. Усіх гэтых глупстваў, што выказваюць польскія палітыкі, тыя з высокага класа і ніжэй, з левага, правага боку, у праве і па-за законам, не палічыш. Я ўжо і не лічу, бо дастаў ад гэтага нястраўнасці. А я так стараўся весці здаровы лад жыцця! Часопісаў, крайне правых ці левых, цураюся. Ад вестак у тэлебачанні бягу як ад кіпню. Наіўны, я думаў, што схаваны ў лясной глухамані і наднарваўскіх туманах, буду вольны ад палітычных сварак і інтрыг. А дзе там! Польская рэчаіснасць дагнала мяне ў час шпацыру па лясных прасеках. Наткнуўся я там на газету аднабаковага правага толку. З загалоўкам зверху. Мяркую, аднак, што чытач меў вельмі левыя перакананні. Ну, хіба што здрадзіў правую справу! Аб падрабязнасцях гэтага палітычнага інцыдэнту нават не заікнуся. Але, каб зрабіць яго збалансаваным, дзіўнай ironіяй лёсу, я наткнуўся ў той жа дзень на гэтак жа зганьбаваны артэфакт польска-польскай вайны. Толькі што гэтая газета была на другім баку. З назвай, вядома, на самым версе. З тых часоў я спыніў прагулкі па пушчанскіх... прабачце.... прапагандысцкіх нетрах.

Як гэта часта бывае, што недурныя, здавалася б, людзі, кахаючыя бацькі і мужы (ці маці, жонкі), спрыяльныя суседзям і верныя сяброўствам, як толькі дапхаюцца локцямі да палітычнага карыта, раптам ператвараюцца ў цынічных і эгаістычных прыдуркаў, неадчувальных да пакутаў іншых? У мяне на гэта свая тэорыя — гэта звязана з электрычнай перагрузкай інфармацыяй! Возьмем, да прыкладу, любога міністра. Колькі ён павінен перакінуць дакументаў, з колькімі чыноўнікамі пракансультавацца, каб даць рашэнне аб будаўніцтве аднаго метра шашы? І колькі такіх рашэнняў павінен прымаць кожны дзень? Шмат! Але што там міністр! А кіраўнік урада?! Прэзідэнт краіны?! Ад лішку інфармацыі аж чэрап баліць. Дакладней мозг. А на самой справе гэтая яго частка, дзе размешчаны асяродак кантролю страху, што называецца міндалепадобным целам. Даследнікі зацікаўленыя ў чалавечым мозгу даказваюць, што гэты цэнтр працуе па прынцыпе «змагайся або ўцякай». Гэта такое клік-клік, незалежна ад свядомасці. Інфармацыйная перагрузка прыводзіць да запісу аб стане рызыкі і адключае вышэйшыя вобласці мозгу, адказныя, у прыватнасці, за ўражлівасць, адчувальнасць, дабрыню і спачуванне. Можна сказаць, што носьбіт такога «перакліканага» органа становіцца пацярпелым чалавекам. Хай нікому не будзе дзіўна, як ён ставіцца да іншых грамадзян як да выканаўчых аўтаматаў і грамадства як прамысловай вытворчай лініі. Гэта ахвяра, таму так цяжка думае. Яна невядома чаму злуецца, калі аўтамат пачынае скрыгатаць або перагружаная вытворчая лінія выскоквае з пратэстам на вуліцу! Паколькі задышка ці пратэст, гэта таксама інфармацыя. У выніку бесперапыннага патоку інфармацыйных элементаў у пацярпелым наступае гэтак званы закон развароту. Ён заключаецца ў тым, што чым больш інфармацыі ён мусіць пераварыць, тым больш яго мысленне запавольваецца. Чым хутчэйшага прымання рашэнняў патрабуе сітуацыя, тым больш павольна яны вырашаюцца. І, нарэшце, чым большая крытыка звязаная з бяздзейнасцю ў рашэннях, тым павольнейшая палітычная рэфлексія. Зашмат таго як на адну галаву. Клік-клік!

Гісторыя, — таксама сучасная, — фіксуе многіх уладароў, якія звярталіся ў такой сітуацыі ў маразм, рэлігійны ці ідэалагічны фанатызм і самазнішчэнне, абжорства і п’янства ды сексуальную разбэшчанасць. На жаль, у выпадку тых, каму клікнула ў бок бою, выяўлялася жорсткасць. Пацярпелыя размахваюць мазгамі як кулаком і шпурляюць рашэннямі з хуткасцю кулямёта. Тут гакнуць дэкрэтам, там адстаўкай. От, пацярпелыя... Трэба ім дараваць. І лепш не перагружаць перагрузкай інфармацый. Такім чынам, аўтаматы, заткніцеся! Няхай жыве аўтаматызаваная лінія па вытворчасці!

**Міраслаў ГРЫКА**



**Вачыма еўрапейца**

# Камісія нешматлікай зацікаўленасці

Ужо другі раз у гэтым тэрміне парламента ў Беласток прыбыла парламенцкая камісія па нацыянальных і этнічных меншасцях. За дзень да яе беластоцкага пасяджэння члены былі ў Пуньску, дзе выслухалі інфармацыю аб стане асветы літоўскай меншасці ў Польшчы. У беластоцкай частцы наведалі муфтыя РП Тамаша Міськевіча і на працягу дзвюх гадзін выслухалі інфармацыю міністра адміністрацыі і лічбавізацыі аб становішчы нацыянальных і этнічных меншасцей на тэрыторыі Падляшскага ваяводства ды міністра ўнутраных спраў і ўпаўнаважанага ўрада па справах роўнага трактавання аб мерах, прынятых у адказ на акты расізму і ксенафобіі ў 2013 годзе на Падляшшы. У нарадзе прынялі ўдзел прадстаўнікі падляшскіх меншасных арганізацый. Дабяслаў Жэмянеўскі, начальнік аддзела нацыянальных меншасцей дэпартамента рэлігійных веравызнанняў МАіЛ у ацэнцы становішча меншасцей на Падляшшы засяродзіўся толькі на трох: літоўскай, беларускай і татарскай. Аб беларускай сказаў: „Ёй найбольш пагражае асіміляцыя. Яе лік рэзка скараціўся, што выклікае заклапочанасць нашую і парламенцкай камісіі, якая сустракаецца толькі па гэтым пытанні (на сустрэчы ў лістападзе — М. Х.). Адзначыў прытым: «Станоўчым з’яўляецца адраджэнне беларускай мовы і беларускай адукацыі, асабліва ў самім Беластоку». Высока ацаніў асацыяцыю АБ-БА, а ўспамінаючы пра «багатае інтэлектуальнае жыццё беларусаў у Беластоку — «Białoruskie Zeszyty Historyczne — Беларускі гістарычны зборнік». Падвёў: «Клімат у Падляшскім ваяводстве спрыяе шматкультурнасці. Паяўляюцца, як і ўсюды, лакальныя канфлікты, але яны хутка і эфектыўна вырашаюцца».

Ян Сычэўскі, старшыня БГКТ, таксама звярнуў увагу на «галапуючыя страты нацыянальнай ідэнтычнасці», але ў кантэксце «суб’ектыўнага пачуцця ідэнтычнасці» сярод беларусаў на Падляшшы. Яўген Вапа, старшыня Беларускага саюза ў РП асцерагаў, што маштаб беларускай міграцыі ў рэгіёне велізарны і ў асноўным звязаны з эканамічным калапсам рэгіёна: «З самога турызму ніхто не пераживе. Гэта міф». Дадаў: «Беларусы для палякаў на Падляшшы з’яўляюцца партнёрамі ў інтэлектуальным, прафесійным, самаўрадавым плане і г.д. Павінна быць прадугледжана развіццё гэтага партнёрства».

Ён звярнуўся да ваяводы і падляшскага маршалка з заклікам супрацівіцца прапанаванаму скарачэнню сродкаў у дзяржаўным бюджэце на наступны год для меншасцей. Тут старшыня камісіі Мірон Сыч (украінская меншасць) адзначыў: «Калі цяжкая сітуацыя кранае большасць, меншасць — шматкроць больш».

Віцэ-старшыня камісіі Яўген Чыквін рызыкаваў заяву: «У апошнія гады лік беларускай меншасці скараціўся амаль на 20 адсоткаў».

У другой частцы сустрэчы некаторыя з сабраных пахвалілі хутчэйшыя чым раней рэакцыі на паведамленні аб злачынствах на расісцкай і ксенафобскай глебе. Але ўсё ж доўга чакаецца пакарання вінаватых. Муфтый Тамаш Міськевіч падкрэсліў, што мусульманская абшчына адчувае сябе пад пагрозай. Асабліва ў святле апошніх падзей — скандалу ў першы дзень Курбан-байрама, калі ў Багоніках змагары за правы жывёл спрабавалі перашкодзіць традыцыйнаму ахвярапрынашэнню, а дзень пазней — падпалу мячэці ў Гданьску (у ноч з першага на другі дзень знаходжання камісіі на Падляшшы).

Камісія прыняла прадстаўленую ёй інфармацыю, аднагалосна прыйшла да высновы, што неабходна падрыхтаваць стратэгію развіцця беларускай асветы на Падляшшы, асудзіла інцыдэнт у Гданьску і абвясціла, што звернецца ў Канстытуцыйны суд, каб разгледзеў як мага хутчэй скаргу рэлігійных суполак — мусульманскай і габрэйскай — на законапраект, які забараняе ім рытуальны забой. Калі Трыбунал палічыць, што законапраект у адпаведнасці з Канстытуцыяй, камісія прыме заканадаўчую ініцыятыву перагледзець яго такім чынам, каб забой быў дазволены для рэлігійных мэт гэтым дзвюм рэлігійным групам.

З запланаванай часткі беластоцкага пасяджэння меншаснай камісіі вынікла мала. Абодва сцвярджэнні аб становішчы саміх меншасцей і адказе на акты расізму і ксенафобіі не былі новымі. Такая ж сустрэча магла быць праведзена ў Сейме, а на самой справе і не весціся, таму што члены камісіі не былі сапраўды зацікаўлены ёю. На семнаццаць яе членаў у беластоцкім пасяджэнні прынялі ўдзел сем, двое з якіх (не ўлічваючы старшыні Сыча) выявілі актыўнасць узяўшы голас.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Пошукі Беларусі ў Беларусі

**Ганна Кандрацюк** дала загаловак сваёй новай кнізе „Беларусь. Любоў і маразм". Дык што — любоў ці маразм вызначае сённяшняе жыццё беларусаў? У кнізе рэпартажаў змешчаны 21 тэкст. Гэты рэпарцёрскі зборнік распавядае аб краіне, якую мы маем побач, здавалася б, знаёмай, аднак не зусім вядомай у Польшчы і палякам. Аўтарка ад дваццаці гадоў працуе журналісткай тыднёвіка беларусаў у Польшчы „Ніва", і тут друкаваліся гэтыя (цяпер крыху перапрацаваныя) рэпартажы з многіх яе падарожжаў у Беларусь. Гандзя назірала правінцыю Беларусі на працягу пару дзесяткаў гадоў, сачыла за пераменамі, пыталася ў мясцовых, ілюзорнасць адфільтроўвала ад праўды праз уласны вопыт і ўражлівасць.



— Перш за ўсё, ад пачатку і да канца, для мяне Беларусь — гэта любоў, гэта людзі і частка маёй душы. Такія рэпартажы не ўзнікнуць, калі чалавек абыякава ставіцца да таго, што піша. У мяне з маімі героямі заўсёды ёсць нейкая амаль магічная сувязь, — прызналася Ганна Кандрацюк на прамоцыі сваёй кнігі ў Цэнтры імя Людвіка Заменгофа вечарам 17 кастрычніка.

Ганна Кандрацюк нарадзілася ў вёсцы Кутлоўка Нарваўскай гміны на Падляшшы. Закончыла беларусістыку ў Варшаўскім універсітэце (магістарская праца па творчасці Наталлі Арсенневай). Раней выдала тры кніжкі: „**W stronę Tarasiewicza**" (два выданні, у 2002 і 2004); „Царская трызна" (2007); „Дзядоўскае турнэ з Анатолем С." (2010). Акрамя чатырох кніжак яна выдала ў 2005 годзе кампакт-дыск з запісам старых падляшскіх песень і аповедаў пад назвай „**Żuryłasie Kateryna**". З 1995 г. вядзе творчыя майстар-класы „Сустрэчы «Зоркі»" для дзяцей (яна — рэдактар „Зоркі" ў „Ніве" з 1994 года). Ганна ездзіць у Беларусь на працягу больш чым дваццаці гадоў (вучылася таксама ў Мінску), шукаючы адказаў на пытанне, што гэта за краіна. Рэпартажы па-польску набліжаюць польскаму чытачу штодзённае жыццё беларусаў ды грамадскую сітуацыю ў гэтай краіне.

Чаму па-польску? Дзе гняздо беларускасці? Колькі Беларусі ў Беларусі? — падалі пытанні ад вядучага сустрэчу і шматлюдна сабранай публікі.

— „Моц Беларусі паходзіць з крыві, з космасу і крамянёўкі"! Які беларусы маюць спосаб на пражыццё? Вельмі важнай з'яўляецца сямейная традыцыя. Гэтая ідэя перадаецца з пакалення ў пакаленне. Так ёсць у выпадку Алеся Белакоза, якога я прадставіла як постаць касмічную, дадзеную Беларусі. Мой герой прычыняецца да інспірацыі, з'яўляецца постаццю-сімвалам... Беларус праграмаваны падвойна. Калі размаўляў са мною нават найбольшы аматар Расіі, прэзідэнта, ён казаў, што ён таксама беларус і цэніць сабе гэтыя каштоўнасці. А ёсць і такія, якія ад пачатку да канца дэкларуюць прывязанасць да каштоўнасцей, згодных з ідэяй Беларусі.

— А колькі Польшчы ў Беларусі? Бо пішаш пра ксяндзоў з Польшчы. На што звярнула ўвагу пішучы ў двух ці трох рэпартажах пра дзейнасць ксяндзоў? Якія былі гэта збегі абставін? Чаму яны ўвогуле паявіліся? — распытваў выдавец „сусед" Анджэй Каліноўскі.

— Я спачуваю такім сентыментальным экскурсіям, таму што яны, едучы туды, расчароўваюцца, бо той свет увекавечаны даваенна ўжо не існуе. Існуе міф, што калі прыязджаюць ксяндзы з Польшчы, прычыняюцца да таго, што Беларусь паланізуецца. Я сустрэла некалькі ксяндзоў, якія вывучылі беларускую мову і былі вялікай апорай і падтрымкай для незалежніцкіх деячаў. Вялікая роля ў гэтым усім была адведзена журналісцкаму шчасцю, удачы і выпадковасці. Але я сказала б, што гэта была добрая выпадковасць. Я зрабіла матэрыял з ксяндзом Войцехам Ляманскім, які тады быў прыехаў у Беларусь усяго на два тыдні, каб наведаць сваіх старых парафіян. І я якраз натрапіла на яго, і ён мне распавёў, як быў у тых мясцінах святаром сем гадоў. І яшчэ другая добрая выпадковасць — мне тады пашанцавала сустрэцца і зрабіць матэрыял з ксяндзом Уладзіславам Чарняўскім, які памёр у 2001 годзе... Які быў самы цудоўны момант у гэтых падарожжах у Беларусь? Тут 21 рэпартаж, і думаю, што такім спаўненнем маіх мараў была сустрэча з ксяндзом Уладзіславам Чарняўскім. Калі я жыла ў Мінску, я намаўляла сваіх сяброў і іншых людзей, каб паехаць да яго, на багаслужбу, у нядзелю. Але не ўдалося. Мне здавалася, што сустрэча з такой легендарнай асобай немагчымая. У час падарожжа, калі мы праязджалі непадалёк мясцовасці Вішнева, заехалі. Я запісала адзін рэпартаж з асобай, якая з'яўляецца для Беларусі сімвалам змагання, годнасці... Я дадала крыху матэрыялу на польскай мове да таго, што раней напісала па-беларуску. Можна сказаць, яны паказаны мною з сённяшнім варштатам. Я выкінула некаторыя фрагменты з ніўскіх версій маіх рэпартажаў, бо палічыла, што яны „перагрузяць" кніжнае выданне. Я апублікавала ў „Ніве" восем цыклаў рэпартажаў з Беларусі. Калі мне запрапанавалі выдаць кніжку пра Беларусь па-польску, я ўзяла тэксты перш за ўсё з першага цыкла, з маёй першай паездкі... Гародня, Слонім, Семежава, Ліда, Гальшаны, Наваградак... Тады яшчэ не было нейкіх канкрэтных даведнікаў па Беларусі. Здабыванне інфармацыі і матэрыялу заключалася наогул у тым, што калі ты патрапіш да нейкага канкрэтнага чала-

працяг ☞11

# Беларусь — палкая любоў аўтаркі

Алесь Белакоз, стваральнік музея беларускай літаратуры ў маленькіх Гудзевічах прызнаецца, што для музея найлепшым часам быў 1994 год, калі ў краіне адраджалася беларускасць. Аднак ён не прасіў улад аб дадатковыя сродкі. Ён жадаў, каб дзяржава развівалася ў эканамічным плане, мацавалася.

Ян Жыдок з прыгранічнай Цецяроўкі, які скардзіцца на лёс па прычыне цяжкай хваробы жонкі. Што з ім будзе, калі жанчына памрэ? А што было б, калі б тады раней, пасля вайны, вяртаючыся з войска, паспеў пераскочыць на польскі бок мяжы і пачаць жыць, напрыклад, у Беластоку. Кім бы быў тады Ян Жыдок? Кім ён ёсць сёння? А кім увогуле з'яўляецца чалавек?

Айцец Мікалай з Ружанаў, пабачыўшы выразныя знакі ад Бога, які прамаўляе да яго праз распрэдніцтва дзвюх ікон Божай Маці: адной, якая точыць слёзы, другой, якая аднаўляецца. Гэта відавочны знак, што Беларусь, як тая ікона, адродзіцца, а людзі вернуцца да веры, праваслаўя, і айца Мікалая таксама стануць паважаць. Важнае, што адраджэнне Беларусі мае шанц здзейсніцца само па сабе, бо айцец Мікалай у сваёй палітыцы аддае перавагу самым малым крокам і пакуль беларускай мовы не ўпускае за парог царквы.

Рэгістратарка гасцініцы «Шчара» ў Слоніме, якая ў адраджэнне Беларусі надта не верыць. Не верыць таксама, што ў Польшчы ўвогуле могуць жыць беларусы. Які ж жыхар такой прыгожай краіны як Польшча хацеў бы быць беларусам? — задумваецца. Вядома, па-руску.

Ксёндз Войцех Ляманскі. Так, той сам, вельмі вядомы ў Польшчы апошнім часам, таксама гасцюе на старонках кніжкі Ганны Кандрацюк. І, аналагічным чынам як сёння ў польскіх СМІ (як моцна мы, людзі, не змяняемся), адкрыта наракае на палітыку архібіскупа. Тады гродзенскага.

У кожным рэпартажы (усіх іх 21), якія складаюць кнігу «Беларусь. Любоў і маразм»*, сустракаем паўнакроўнага, цікавага, небанальнага героя, перфектыўна паказанага вобразна спраўным і адначасна тактоўным рэпарцёрскім штрыхом. Многія героі кнігі апынуліся ў ёй на выгляд выпадкова; аўтарка сустрэла іх на вуліцы, распазнала і звязала ў тэкст, дзякуючы кароткай размове. Персанажы часта былі злоўлены ў час аднаго дыялога, а нават пасля аднаго сказа, якім неразважліва паспавядаліся Кандрацюк з усёй сваёй душы.

Ухапіць тыя перфектыўныя партрэты, якія ўсе, без выключэння, кружаць вакол беларускасці, аддаючы гэтай ідэі сябе самога цалкам, або прабуючы даць з яе драла чорт ведае куды, магла аўтарка надзеленая дасканалым варштатам і кампетэнцыяй распазнаваць сучаснае беларускае пытанне, аўтарка, якая сама жыве перш за ўсё сумленна рэалізаванай любоўю да Беларусі, але таксама да... пісання. Тут патрэбны талент выхопліваць «неістотныя» сцвярджэнні, словы, жарты, жэсты, умельства хуткім позіркам пранікаць маску банальнасці, за якой часта стараюцца скрыцца людзі няўпэўненыя ў тым ці варта адкрыта размаўляць з незнаёмкай.

Гэта дзякуючы такім станоўчым рысам рэпарцёрскага варштату Ганны Кандрацюк далучаемся ў яе рэпарцёрскай аповесці да незвычайнага згустка герояў, якія ў нешта вераць і ў нечым упэўненыя. Яны вераць, што Беларусь адродзіцца, што адродзіцца вера, мова, культура; або, што яе ніколі не было і не будзе.

Беларусь у тэкстах Ганны Кандрацюк з'яўляецца чымсьці ў родзе вялікай гістарычнай кнігі, эмацыйна ўкаранелай у слаўным мінулым і нахабна баналізаванай фатальнай сучаснасцю. Папраўдзе ў вачах 76-гадовай жыхаркі Дзяніскавіч наратарка рэпартажаў усё бачыць абрысы спаленай савецкімі партызанамі царквы, аднак ужо ў крыжы ў гонар слуцкіх паўстанцаў бачыць закадаваную траўму і бездапаможнасць. Жыхаркі Семежава больш чым гадавінай паўстання клапоцяцца тым, што ўжо з прысядзібных сотак хтосьці крадзе агароднiну. А ў краму ўжо два тыдні не пастаўляюць масла.

Памяць аб гісторыі Беларусі, аб'екце палкай любові аўтаркі, у гэтай краіне нелегальная. У прыдарожных равах валяюцца косці слуцкіх паўстанцаў, выпадковыя земляныя работы выяўляюць неўвекавечаныя магілы. Большасць жыхароў гэтым не цікавіцца, бо не чытаюць яны гістарычнай кнігі пад загалоўкам «Беларусь», не захапляюцца ёю, паводзяць сябе ў адпаведнасці з прынцыпамі гультаяватасці і афіцыйнай прапаганды, паводле якой у дасавецкі час, так у сапраўднасці, нічога не было.

Нарацыйным швом зборніка рэпартажаў з'яўляецца тактоўна рысаваны матыў турыстычна-рэпарцёрска-навуковай экскурсіі. Экскурсіі чароўнай і сціплай, рознай ад масавых вандровак, арганізаваных турыстычнымі бюро. Экскурсія, якой дзеліцца з намі Ганна Кандрацюк — эксклюзіўная і абсалютна непаўторная менавіта таму, што ёй наплюваць на густ масавага турыста. Сапраўдны спружыны, якая пускае ў ход і вызначае маршрут, з'яўляецца індывідуальнае жаданне аўтаркі дабрацца да месц, якія будуць інспірацыяй для яе інтымнай рэфлексіі, узбагацяць мудрасць і зробяць больш універсальнай паэтычнасць.

**Марцін РЭМБАЧ**

* Hanna Kondratiuk, *Białoruś. Miłość i marazm*, Białystok 2013. Wydawnictwo: Fundacja Sąsiedzi, seria: Literatura Faktu.

# ЛЮБЛІН: стварэнне культурнай сеткі

**На працягу трох дзён (4-6 кастрычніка) у Любліне ў час семінараў і дыскусій вяліся размовы аб развіцці культуры, новых тэхналогіях і кампетэнцыях, самабытнасці ў культуры і сацыяльнай ангажаванасці культуры. На ІІ Кангрэс культуры Усходняга партнёрства прыехалі госці з шасці краін-удзельніц праграмы УП (Арменія, Азербайджан, Беларусь, Грузія, Малдова, Украіна) і балканскіх краін.**



У Любліне ўлада служыць культуры. Злева: Кшыштаф Чыжэўскі, Кшыштаф Жук, міністр Гурам Адзішарыя, Яцак Ольбрыхт і Міхал Карапуда

Пачынаючы сёлетні Кангрэс дырэктар аддзела культуры люблінскай мэрыі, шматгадовы культурны менеджар Міхал Карапуда заявіў:

— Еўропа не можа быць зведзена да адной, зачыненай катэгорыі, таму што яна ў бясконцым працэсе самастварэння.

На яго думку, Еўропа не можа быць выключна кантынентам, палітычным арганізмам, эканамічным саюзам, калекцыяй гістарычнага вопыту, ані ідэяй або наборам ідэй:

— Пытаючыся пра сумесную прастору, інтэграцыю, мы не можам забываць аб межах — яшчэ жыццяздольных «шнарах» гісторыі. Як затым будаваць еўрапейскую супольнасць і еўрапейскасць нашых мясцовых супольнасцей? Мы хочам асноўвацца на культурныя каштоўнасці, на дыялог грамадскасцей праз межы, на стварэнні месц пасярэдніцтва і абмену. Гэта нялёгкая місія, доўгатэрміновая, з непрадказальнымі і не зусім адчувальнымі вынікамі. Аднак мы падзяляем агульнае перакананне, што яна павінна быць прынята — у пошуках страчанага сэнсу адзінай Еўропы.

Гэтай заяве — як і ўсяму Кангрэсу — прыслухоўвалася ў гэты раз (гэтак не было падчас першага з'езду два гады таму) дэлегацыя з пяці чалавек з Беластока, узначальваная Аннай Пецюль, дырэктаркай Бюро культуры Гарадской управы і Гражынай Дваракоўскай, дырэктаркай Беластоцкага цэнтра культуры, які быў арганізатарам беластоцкага выпуску «Усходу культуры», з дадаткам у назве «Іншае вымярэнне». З цікавасцю назіралі яны за працягваючымся паралельна з Кангрэсам выпускам «Усходу культуры», тут з адметнай рысай «Інтэграцыі-Медыяцыі» (больш падрабязна аб гэтай падзеі ў параўнанні з беластоцкай у «Ніве» на другой старонцы) і завяршаючымся першым днём Кангрэса ініцыятыў Усходняй Еўропы. Беластачане падчас урачыстага адкрыцця Кангрэса пільна слухалі словы мэра Любліна Кшыштафа Жука:

— Люблін апынуўся на мяжы паміж лацінскай і візантыйскай культурамі. Быў варотамі на Усход і ўсходнімі варотамі на Захад. Мы бачым гэтую спадчыну таксама як адказнасць за фармаванне будучых адносін. У рамках Кангрэса ініцыятыў Усходняй Еўропы і Кангрэса культуры будуем асновы супрацоўніцтва ў рамках УП паміж гарадамі і рэгіёнамі, паміж адміністрацыяй, паміж урадамі. Добра рэалізуем мэты польскай знешняй палітыкі ў гэтай сферы.

Адзначыў:

— Ва Усходнім партнёрстве будуем імідж горада Любліна як горада дыялогу паміж няўрадавымі арганізацыямі, з мастацкімі асяроддзямі. Нашы краіны маюць вельмі складаную гісторыю. Сёння не заўсёды аднолькава глядзім на гэтую гісторыю. Гэта дасягаецца шляхам працэсу разумення адзін аднаго. Калі, аднак, цяжкая дэбата аб польска-ўкраінскіх адносінах прынесла вялікія эмоцыі па абодвух баках мяжы, у Любліне мы выдалі паэзію Тараса Шаўчэнкі, выдатнага паэта Украіны, на польскай і ўкраінскай мовах і зрабіў гэта Люблінскі каталіцкі ўніверсітэт. У Любліне ўшанавалі мы Тараса Шаўчэнку прысваеннем яго імя плошчы (размешчана яна ў цэнтры Любліна, побач з аўтавакзалам — М. Х.), якая мае сімвалізаваць блізкае месца для ўкраінцаў. Люблін хоча прыняць удзел у дыскусіі паміж супольнасцямі і народамі пры здагадцы, што мы паважаем адзін аднаго, паважаем сваю культуру і спасылаемся на агульную культурную спадчыну. Незалежна ад некаторых адрозненняў, шукаем агульную ідэнтычнасць і мая амбіцыя заключаецца ў тым, каб Люблін быў для нашых сяброў з УП месцам, у якім хочуць дзейнічаць, вучыцца, жыць, наведваць яго, як гэта адбываецца цяпер у выпадку ўкраінцаў.

Адзначыў:

— Вялікую ўвагу надаем удзельніцкай мадэлі кіравання горадам. Да таго, каб грамадскія арганізацыі, што фінансуюцца з гарадскога бюджэту, не адчувалі пагрозы ў сваім самастойным развіцці або дзеянні. Пільнуем, каб гарантавалася гэтая аўтаномія ў распрацоўцы мэт і кірункаў дзейнасці, нягледзячы на грошы, выдзеленыя з гарадскога бюджэту. Такія добрыя практыкі ў гэтай галіне мы можам перадаць іншым гарадам.

Ва ўрачыстым адкрыцці Кангрэса прыняў удзел, між іншым, міністр культуры Грузіі Гурам Адзішарыя. Дзень раней знакамíты люблінскі тэатр «Provisorium» паказаў у Тбілісі «Братоў Карамазавых» па рамане Фёдара Дастаеўскага. Міністр адзначыў:

— Культура — гэта такое поле дзеяння, якое пераможа кожную праблему.

Ён не хаваў :

— У Тбілісі яшчэ адбываецца штосьці цікавае, але за межамі сталіцы Грузіі горш. Таму мы зацікаўлены ва ўстойлівым развіцці культуры і сацыяльна-культурных рэформах. Пад развагу трэба браць ідэю стварэння культурнай сталіцы Усходняга партнёрства. З пятнаццаці праграм рэалізаваных ва УП, Грузія ўдзельнічала ў дванаццаці.

Яцак Ольбрыхт з Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны абвясціў аб запуску Еўрапейскім Саюзам новай культурнай праграмы на наступны год, якая таксама ўключае ў сябе праграму УП «Творчая Еўропа». Гэта ў агульнай складанасці 1,8 мільярда еўра. Гаворка тут у асноўным аб адраджэнні культурнага сектара. Мае быць падтрыманы асабліва кінематограф, але і — як гаворыцца ў афіцыйных дакументах ЕС — праекты культурнай і моўнай разнастайнасці. 300 тысяч мастакоў маюць шанц атрымаць сродкі для прыцягнення аўдыторыі за межамі сваіх краін, а 5,5 тысячы кніг могуць быць перакладзены. Праграма мае дзейнічаць да 2020 года.

Ірына Магдыш, якая займаецца кіраваннем і анімацыяй культуры ў Львове, асцерагала:

— Свет мяняецца вельмі хутка. Змяніўся ў параўнанні з першым культурным кангрэсам. Мы павінны памятаць аб хуткаплыннай сучаснасці, не толькі пра «пыл на кнігах». Мы павінны навучыцца новага спосабу мыслення пра культуру. Няхай урэшце ўзнікне гэтая сетка, якая спалучыць культурных актывістаў УП.

З уступным дакладам «Культура і салідарнасць» выступіў Кшыштаф Чыжэўскі, кіраўнік сейненскага Цэнтра і Фонду «Пагранічча мастацтваў, культур і народаў», старшыня Рады Кангрэса. Ацаніў:

— У свеце цывілізацыйнага прагрэсу і растучага дабрабыту, які мы вяжам з дэмакратыяй і культурным ды эканамічным лібералізмам, адчуваем усё больш шырокія грамадскія расколы, культурныя канфлікты і распад адносін. У імя свабоды і эмансіпацыі адзінкі мы бунтаваліся супраць калектыўных форм рабства такіх як каланіяльны імперыялізм, рэпрэсіўная дзяржава, маральныя канвенцыі ды культурныя і рэлігійныя традыцыі. Пастаянна пашыраючы поле свабоды асобы, мы пачалі спазнаваць горыч адчужэння, эгаізм і адзіноту сярод іншых, а таксама дэпрэсію — самае распаўсюджанае захворванне ў ліберальных грамадствах. Трэба было такога вопыту сучаснасці, каб мы зразумелі, што чалавек нараджаецца для свабоды, але ён становіцца сапраўды свабодным толькі тады, калі можа добраахвотна адмовіцца ад яе.

І дадаў:

— Таму вяртаемся да салідарнасці. У адказ на беспасяховасць, калі не бездапаможнасць нацыянальных дзяржаў пры некаторых праблемах сучаснага свету, такіх як глабальнае пацяпленне, бяспека, галеча ці адчужэнне, мы шукаем транснацыянальных форм дэмакратыі і глабальных спосабаў кіравання ёю.

Падкрэсліў ён між іншым, што культура, атрыманая ў спадчыну Еўропай на працягу апошніх двух стагоддзяў, «добра адчувае сябе ў галіне свабоды і незалежнасці»:

— Зараз далучылася да іх таксама галіна культурнай разнастайнасці, якая разумеецца як унікальнае багацце моў і лакальных ідэнтычнасцей, якія патрабуюць абароны ад уніфікуючай глабалізацыі (...). Гэта не змяняе таго факту, што той жа выдаленчы аспект, падобна як абарона разнастайнасці і павагі да адрозненняў, не вычэрпвае місіі культуры, якая ўдзельнічае ў найважнейшых праблемах нашага часу. Для ўсё больш глабалізуючагася і і штораз больш узаемазалежнага свету самая важная задача складаецца ў салідарнасці, што ахоплівае цэласць чалавечых суадносін, так з іншымі людзьмі, як і з прыродай. Глыбокая салідарнасць мае патрэбу ў глыбокай культуры.

У нейкі момант выступлення падкрэсліў:

— У культуры пачынае мець вагу не тое, супраць каго мы, а з кім.

Беларусь была прадстаўлена некалькімі незалежнымі дзеячамі мастацтва і культуры ў такіх галінах як літаратура, мастацтва, тэатр і анімацыя ды менеджмент культуры. Андрэй Хадановіч, паэт і перакладчык, кіраўнік беларускага ПЭН-цэнтра ў кулуарнай размове з «Нівай» ацаніў цяперашнія польска-беларускія адносіны ў галіне культуры:

— Безумоўна, польска-беларускія і беларуска-польскія адносіны ў галіне культуры, на мой суб'ектыўны погляд, сталі бліжэйшымі. У апошні час у цэнтры Мінска, у кнігарні Логвінаў, з удзелам польскага амбасадара ў Беларусі і дырэктаркі Польскага інстытута адкрылі мы г.зв. польскую шафу, значыць, аддзел са свежымі і цалкам легальна імпартаванымі польскімі кнігамі, якія могуць купіць не толькі нашы студэнты паланістыкі, не толькі прадстаўнікі польскай меншасці, але і шматлікія «вар'яты», якія любяць чытаць літаратуру ў арыгінале, такія як фанаты Рышарда Капусцінскага, Вольгі Такарчук, Дароты Масло́ўскай, класікаў ХХ стагоддзя такіх як Гамбровіч ці паэзіі ад Крыніцкага і Шымборскай да іхніх маладзейшых калег. На наступным тыдні мы адкрываем чарговы філіял кніжных крамаў Логвінава ў Варшаве (адкрылі 10 кастрычніка ў Беларускім доме па вуліцы Вейскай, 13/3 — М. Х.). Кнігі можа купіць тут кожны, хто зацікаўлены беларускай мовай. У Мінску распачаўся месяц польскай літаратуры. Кожны тыдзень значныя мерапрыемствы будуць праходзіць у горадзе; мы выходзім за межы кнігарні Логвінава і галерэі «Ў», як да гэтага часу. 22 кастрычніка ў Тэатры імя Янкі Купалы будуць прадстаўлены фрагменты дзвюх камедый Аляксандра Фрэдры — «Дзявочых зарокаў» (пераклад Марыі Мартысевіч — М. Х.) і «Помсты» (пераклад Андрэя Хадановіча — М. Х.). З Марыйкай Мартысевіч мы будзем распавядаць пра свае прыгоды з Фрэдрам у якасці яго перакладчыкаў, а акцёры Купалаўскага тэатра будуць паказваць самыя смачныя часткі гэтых п'ес. Неўзабаве ў Мінск прыедзе класік польскай паэзіі Рышард Крыніцкі. Будзем прадстаўляць яго ў арыгінале і мае пераклады яго вершаў з апошняй кнігі «Дакрануцца». У Акадэміі навук будзе адкрыта выстава, прысвечаная Юльяну Тувіму. Падобных мерапрыемстваў будзе шэраг. Падобныя працэсы супрацоўніцтва адбываюцца, усё больш і больш усталёўваюцца кантакты. Расце новае пакаленне перакладчыкаў польскай літаратуры, якім па 22-28 гадоў, і якія не разлічваюць на прыбытак. Возьмем, для прыкладу, пераклад неперакладальнага Лесьмяна. У гэтым годзе паявілася вялікая кніга вершаў па-беларуску Віславы Шымборскай пад загалоўкам «Канец і пачатак».

Падчас урачыстага адкрыцця кангрэса адзначыў:

— Еўропа не пакідае нам магчымасці выбару. Дазваляе нам быць дзівакамі, якія дыхаюць кніжным пылам. Еўропа дазваляе быць «іншым» і дае на гэта права.

Аб дэталях Кангрэса — праз тыдзень.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**




Калектыў „Ліпск” з гасцямі — гродзенскай „Росніцай”

# Ліпскае саракагоддзе

У чым заключаеццца сутнасць сапраўднага шчасця? У працавітасці, спалучанай з талентам, пашанай да другога чалавека і ўласнай культурнай спадчыны. Хто не верыць, няхай прыедзе ў надбобранскі Ліпск і сустрэнецца з яго элегантна скромнымі, шчырымі і надта ветлівымі жыхарамі. Маленькі, ціхі гарадок смела можна назваць басейнам жывых традыцый рэгіёна. Шчаслівыя ліпшчане, як мурашкі, безупынна даследуюць і перадаюць наступным пакаленням народныя звычаі, пякуць гускі і караваі, плятуць саламяныя павукі, папяровыя вянкі і лазовыя кошыкі, ткуць, вышываюць, мярэжаць, вырэзваюць з паперы і дрэва, распісваюць велікодныя яйкі і, канешне, спяваюць.

Творы іх рук, галасы і старыя абрады вядомыя далёка па-за межамі рэгіёна. Гэта дзякуючы, між іншым, калектыву „Ліпск” мясцовага дома культуры і сувальскаму аддзелу Аб'яднання народных творцаў (АНТ), якім толькі што споўнілася сорак гадоў. Нядаўна адбыліся юбілейныя святкаванні, да ўдзелу ў якіх былі запрошаны прадстаўнікі гмінай і маршалкоўскай управ, выпрабаваныя часам сябры і новыя знаёмыя — аднадумцы юбіляраў.

Віншаванні на рукі мастацкай кіраўнічкі „Ліпска” Барбары Тарасэвіч і ўсіх спявачак, якія адначасова з'яўляюцца членамі АНТ, пераказалі, між іншым, працаўнікі Сувальскага асяродка культуры. Яны — фанаты і зберагальнікі аўтэнтычнай традыцыі, а заадно арганізатары фальклорных мерапрыемстваў — прызналіся, што не ўяўляюць сабе такога роду імпрэз без удзелу ліпскіх артыстаў. Інструктар па справах фальклору Міраслаў Наляскоўскі заўважыў, што фундаментам, на якім заснавана і трымаецца ліпскае народнае мастацтва — гэта лакальны патрыятызм. Паводле яго, менавіта пачуццё канкрэтнай тоеснасці не дазваляе на растрату культурнай спадчыны продкаў. Спадар Наляскоўскі падкрэсліў таксама, што ў спалучэнні паасобных лакальных патрыятызмаў заключаецца асноўнае багацце Сувальшчыны — яе шматкультурнасць. У сувязі з гэтым ён назнаёміў ліпшчан з новымі магчымасцямі, звязанымі з набліжаючымся Глогераўскім годам і заахвоціў да ладжання культурных сувязей з бліжэйшымі суседзямі з Літвы і Беларусі.

Пра штодзённыя турботы саракагадовага АНТ распавяла сабраным яго старшыня Эва Сковыш-Муха. Заявіла яна, што пакуль у арганізацыі зарэгістраваных дванаццаць членаў, а чарговых дзесяць чакае пафесіянальнага камісійнага адбору. Спадарыня Эва прызналася, што аб'яднанне зінтэгравала мясцовых творцаў, але не дапамагло ў прыцягненні фінансавых сродкаў на далейшае яго развіццё. „На перашкодзе стаіць адсутнасць уласнай маёмасці і фінансавых



Жывая легенда Ліпска — Крыстына Цеслюк

рэсурсаў. Немагчыма пакарыстацца еўрапейскімі праектамі, бо няма свайго фінансавага ўкладу, хіба што прыватныя пенсіі, — дабавіла яна. — У рамках дзейнасці аб'яднання, дзякуючы падтрымцы гмінай управы, удалося, між іншым, пашыць вопратку членам калектыву, выдаць індывідуальныя інфарматары і кніжку „Санктуарый на крэсах”. Маем створаны Музей ліпскай пісанкі і традыцыі, якія выдатна мог бы паўплываць на развіццё рэгіёна, — тлумачыць старшыня АНТ. — Хочам надалей яго развіваць але не хапае нам падтрымкі. У Еўропе ўжо разумеюць, што значыць зберагаць уласныя карані. Мы з настойлівасцю маньяка стараемся перадаваць далей тое, што атрымалі ад сваіх бацькоў, бо ведаем, што нацыя без каранёў не годная будучыні”.

Высока цэняць талент і працавітасць ліпскіх творцаў у шырокім свеце. Спадарыні Эве Сковыш-Мусе быў прысвоены медаль „60-годдзя Цэпэлії”. Яна атрымала таксама першую ўзнагароду Маршалка Падляшскага ваяводства ў конкурсе прыкладнога мастацтва велікодных святкаванняў. Яніну Трахімовіч ведаюць як самую лепшую каравайніцу. Ткачыха Казімера Макоўская кожны год удзельнічае ў янаўскім конкурсе на дзвюхасноваую тканіну. У „Кансерватарскім бюлетэне” былі змешчаны артыкулы Барбары Тарасэвіч, якія паўсталі на аснове даследаванняў яе мамы Крыстыны Цеслюк.

Пра Крыстыну Цеслюк можна сказаць, што яна — жывая легенда Ліпска, чалавек-аркестр, майстар на ўсе рукі. Яна лаўрэат найважнейшай у галіне народнай творчасці ўзнагароды імя Оскара Кольберга. У 2008 годзе міністр культуры і нацыянальнай спадчыны прысвоіў спадарыні Цеслюк ганаровую адзнаку „Заслужаны для польскай культуры”.

З прозвішчам Крыстыны Цеслюк звязаны, між іншым, пачатак і развіццё мясцовых абрадавых тэатраў і самога калектыву „Ліпск”. Аб прыгодзе з народнай творчасцю расказала яна „Ніве”.

— Усё пачалося з яек, — гаворыць Крыстына Цеслюк. — У васьмігадовым узросце, пад вокам мамы, я зрабіла свае першыя пісанкі. У час вучобы ў сярэдняй школе я ўжо прывучала пісанкарскаму майстэрству сваіх калег і настаўнікаў. Прыйшоў час вярнуцца дахаты, заснаваць сям'ю. У 1969 годзе я прыняла ўдзел у агульнапольскім конкурсе пісанак, арганізаваным Этнаграфічным музеем у Кракаве. Там я атрымала першую ўзнагароду. Заўважыў мяне прафесар Раман Райнфус з тамашняга Дзяржаўнага інстытута даследаванняў народнага мастацтва. Паміж намі завязалася ажыўленая, навуковая карэспандэнцыя, якую зберагаю ў сваёй хатняй хроніцы. Зараз пачалі цікавіцца мною журналісты. У 1973 годзе мне запрапанавалі штат у ліпскай вясковай святліцы. Хутка з візітам прыбыў да нас дырэктар дома культуры ў Дуброве-Беластоцкай і ўгаварыў разгарнуць дзейнасць у напрамку фальклору і народнага мастацтва. Пачалася інтэнсіўная даследчыцкая праца. Нашы абрадавыя сцэнкі былі настолькі папулярнымі сярод мясцовых, што гледачам з прычыны недахопу месц трэба было стаяць у дзвярах і пад вокнамі святліцы. Вакальны калектыў дапамаглі мне стварыць старэйшыя члены ліпскага касцельнага хору. Працу ў святліцы я пачала 1 красавіка, а ўжо 20 мая ў нас было першае публічнае выступленне. У мяне захоўваецца пад тысячу запісаных песень і сотні аўдыёзапісаў. Так гэта ўсё пачалося. Калісь працавалася лягчэй. Многа ездзілі з канцэртамі, былі магчымасці атрымаць грашовыя ўзнагароды творцам. У мяне самой пятнаццаць узнагарод. А цяпер? Спявай, калі хочаш, а як не хочаш, то не спявай...

На сцэне ліпскага дома культуры, густоўна ўпрыгожанай роднымі белымі ручнікамі і шаліноўкай, прайшоў святочны канцэрт. Першымі выступілі ганаровыя юбіляры — калектыў „Ліпск” з маладзенькімі „Ліпшчаначкамі”. Пасля прагучаў музычны падарак у выкананні дуэта „Зараніца” з Крынак. На завяршэнне ўсіх сабраных сваімі песнямі і танцамі ўзрадавала гродзенская „Росніца”. Цэлае мерапрыемства прайшло ў незабыўнай атмасферы простай добразычлівасці і зразумення.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

## Залатое вяселле

4 кастрычніка ў Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе адбылося незвычайнае мерапрыемства. Адзінаццаць шлюбных пар адзначыла 50-гадовае супольнае жыццё, а былі гэта: Рыгор і Анна Блышукі, Аляксандр і Надзея Шатыловічы з вёскі Чаромхі, затым Мікалай і Ніна Маркевічы, Мікалай і Вольга Маркевічы, Марыян і Юліянна-Данута Новакі, Сяргей і Надзея Петрушкевічы, Мікалай і Анна Раманчукі, Сцяпан і Лідзія Зіневічы са станцыі Чаромхі ды Уладзімір і Ніна Маркевічы з Беразышчаў і Мікалай і Лідзія Ваўранюкі з Апакі-Вялікай. Ганаровых юбіляраў і запрошаных гасцей, у тым ліку настаяцеля прыхода ў Зубачах а. Рыгора Астапковіча, старшыню гуртка Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў у Чаромсе Рамана Туркевіча, сакратара гміны Марыю Іванюк, намесніка кіраўніка Гміннага ЗАГСа Анну Колтак, настаўніцу Школьна-прадшкольнага комплексу Іаанну Раманюк прыітала кіраўнік ЗАГСа Аліцыя Пыталь.





Фота Уладзіміра СІДАРУКА

Мерапрыемства пачалося з мастацкай часткі ў выкананні дзіцячага калектыву, таму што частка дзетак выязджала з канцэртам у Высокае (Беларусь). Літаратурны мантаж падрыхтавала настаўніца Іаанна Раманюк. Дзеці чыталі вершы, прымеркаваныя да юбілею, і выконвалі вядомыя песні, між іншым, „Nie mów nic”, „Królowa jednej nocy”, „Kawiarenki” ды іншыя. Выступ доўжыўся больш за паўгадзіны. Затым слова ўзяў войт Юры Шыкула. Павіншаваў ён шлюбныя пары з юбілеем, спасылаючыся прытым на словы, сказаныя ў дзень шлюбу — захоўваць вернасць і любоў аж па апошнія дні жыцця. За стойкасць і стрыманне дадзенага слова прэзідэнт РП узнагародзіў юбіляраў медалямі. У цырымоніі ўзнагароджання ўдзельнічала восем пар, пры чым не змог удзельнічаць Сцяпан Зіневіч, а ягоны медаль узяла жонка Лідзія. Адсутнічалі таксама сужонства Мікалай і Вольга Маркевічы ды Мікалай і Анна Раманчукі. Апрача адмысловай віншавальнай граматы ад прэзідэнта Браніслава Камароўскага юбіляры атрымалі букеты кветак і падарункі ад гміннага самаўрада. Медалі ўручыў войт Юры Шыкула, а букеты кветак — кіраўнік ЗАГСа Аліцыя Пыталь. Затым былі зроблены памятныя здымкі. У заканчэнні адбылося супольнае застолле пры шампанскім, каве і гарбаце. Перад пачастункам прысутныя разам з а. Рыгорам Астапковічам згаварылі малітву. Былі тосты, успаміны... На жаль, я не змог удзельнічаць да канца святочнай сустрэчы. Выклікалі мяне сямейныя абавязкі. Падзякаваўшы арганізатарам за запрашэнне, а гасцям за сяброўскую, сардэчную кампанію, пажадаў юбілярам моцнага здароўя, самых сонечных дзён пры дажыванні старасці і... мяшка грошай, бо ў сучасных рэаліях нялёгка прыходзіцца старэчам жыць без іх.

Уладзімір СІДАРУК


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


# Каляровая сустрэча

Раней, як завіталі ў рэдакцыю „Нівы”, наведалі асяродак пагранзаставы. Вядома, экскурсія ў Беласток, без сустрэчы ў „Зорцы” — не экскурсія. Вось тут, у сярэдзіне вялікага горада, на вуліцы Людвіка Заменгофа, можна сустрэць людзей, якія гавораць па-беларуску. І ствараюць беларускую газету. Для дарослых і школьнікаў. Тут працуюць жывыя паэты і пісьменнікі, мастакі, журналісты. Паколькі нас наведалі трэцякласнікі з Нарвы, мы распавялі ім пра тое, як важная для нас іх школа, мясцовасць і людзі. Вось, настаўніца Ніна Абрамюк, ад многіх гадоў прыручае сваіх вучняў, каб чыталі нашу старонку для дзяцей і моладзі. Пані Ніна, любімая настаўніца многіх нашых чытачоў і карэспандэнтаў, таксама была настаўніцай рэдактар „Зоркі”.

У час сустрэчы мы гаварылі пра вечныя і доўгія сяброўствы. Пра паэта Віктара Шведа, які піша вершыкі для дзяцей ужо 57 гадоў! Трэба было запамятаць увесь расказ, бо пасля адбыўся конкурс, у час якога вучні адказвалі на пытанні, якія былі праверкай расказаў.

У якасці ўзнагарод мы прапанавалі зборнікі вершаў беларускіх паэтаў і прыгожыя коміксы, падараваныя нам сябрамі з Мінска.

Наша сустрэча не была б поўнай, калі б не жывыя чытанні. Наша паэтка Міра Лукша прачытала госцейкам вершы пра героя з іхняй гміны — пра „Лася з Ласінкі”, па-беларуску і па-польску.





Удзельнікамі экскурсіі былі вучні трэцяга „а” і „б” класаў. Яны прыехалі са сваімі выхавацелькамі Нінай Абрамюк і Галінай Лапінскай.

А сустрэчча адбылася 21 кастрычніка, у восенькі цёплы, хоць капрызлівы дзень. Па дарозе нашы сябры любаваліся каляровымі дрэвамі, якія адмыслова пафарбавала маці-прырода. Для нас таксама гэтая сустрэча запамятаецца каляровай!

ЗОРКА

Міра ЛУКША

## Яблынька

Гадавала яблынька
Яблычак у садочку,
Ад белае кветкі,
Ад белага почка.

Яблычак для Нікі,
Яблык круглабокі,
Жоўты і вялікі,
Чырвоныя шчокі.

Сарве яблык спелы
Тата для дзіцятак.
Яблычак саспелы
Ніка дасць і брату.

Папалам разрэжа
Яблык Віцю смачны.
За яблычак свежы
Усе яблыньцы ўдзячны.



Юлія ЛЯСОТА

## Восень

Прыйшла да нас восень,
лісточкі з дрэў паскідала
і дарогі на жоўты колер
прыбрала.
Як глянеш на дрэва,
аж сум бярэ за душу:
нядаўна зялёнае,
а цяпер без лісточкаў
стаіць
і сумна на неба глядзіць.
Калі зноў зазелянее,
лісточкамі заззяе
і нас прывітае.

Кастусь ЦЕЛУШЭЦКІ

## Яблынька

Дзедка яблыньку купіў,
У агародзе пасадзіў.
Унукі гэта ўсё бачаць,
Весела гуляюць-скачуць.

— Ты ж з яе яблык не дачакэшся.
Ад старасці ўвесь страсешся...
— Калі яблык вы нарвеце,
Свайго дзеда ўспамянеце!

Вучні з Бабікаў

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Рэпка

**(гульня-языкаломка, з беларускімі народнымі павер'ямі)**

Рос рыс на востраве. А Рабінзон Рома марыў вырасціць рэпку. Зрабіў градку пад рабінай, утыркнуў літару Р, прыгаворваў:

— Расці, Р!... Радуй Рому!... Раса-расіца, аброшвай Р...

Ветрык-вятрыска, абветрывай Р... Промні-праменьчыкі, апраменьвайце Р...

І вырасла на градцы рэпка.

Трэба вырваць рэпку. Рабінзон Рома рваў-рваў — не вырваў.

Рыссю прыскакала рысь. Рома за рэпку, рысь за Рому — не вырвалі.

Раптам рабы рабчык прыляцеў. Рома за рэпку, рысь за Рому, рабчык за рысь — не вырвалі.

Раздумваюць, разважаюць: як рэпку вырваць?

Вынырнуў з нары крот. Рабінзон Рома просіць:

— Родны крот-працаўнік, выручай!.. Рэпку не вырвем...

— Зараз падгрызу корань, — разважыў крот і нырнуў у нару.

Рома за рэпку, рысь за Рому, рабчык за рысь, а крот за корань — р-раз і вырвалі.

— Ур-р-ра!... Рэпка наверсе!...

Разам вячэралі. Елі рэпку Рабінзон Рома, рысь, рабчык, крот. Радаваліся: дружным гуртом добра рэпку рваць, прыемна разам вячэраць...

**Паводле У. Ліпскага**

# Малпы

У пушчы, дзе старыя, вялікія ліпы і дубы і кожны мог схавацца паміж галін, жылі малпы. Тры дзяўчынкі і адзін хлопец. Іх называлі: Алеся, Габі, Віка, — а хлопец быў Віктар. Габі і Віка былі сястрыцамі. Алеся і Віктар — іх бацькі.

Аднойчы ноччу, калі ўсе смачна спалі, у пушчы з'явіліся людзі. Яны захапілі ў сетку бацькоў. Дзяўчаткі спалі і нават не чулі, калі іх бацькі крычалі, клікалі іншых малп на ратунак. Раніцай, калі Габі прачнулася, яна адразу паклікала маму:

— Я галодная, мамачка. Што сёння ты падрыхтавала на сняданак?

Пасля звярнулася да бацькі:

— Тата, а дзе мае лялькі?

Адказу не было. Дзяўчынка пачакала хвілін пяць. Якраз прабудзілася Віка. Яна накрычала на сястру:

— Што так гарлапаніш?! Бацькі спяць. Ціпшэй!

— Няма іх у хаце, — прамовіла з плачам Габі.

Пасля сятрычкі пабачылі картку, на якой было напісана:

*Нас ухапілі людзі і пэўна павязуць нас у заапарк. Ужо ніколі не сустрэнемся! Пішам гэты ліст у апошняй хвіліне. Будзьце асцярожны і ніколі не падыходзьце блізка да людзей...*

*Тата і мама.*

— І што цяпер з намі будзе? — расплакалася Віка.

*(працяг будзе)*

**Вераніка Кардзюкевіч,**
*пяты клас НШ імя свв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку*

# Вершы Віктара Шведа

## „Разумная" бабуля

Чаму ты, бабуля,
Большае да сэрца туліш,
А другое, малое,
Бяжыць за табою.

Адзінае — даччынае,
А рэшткі — нявесткі.
Шустрае, як мачі,
Не трэба пераймацца.

## Грыбы-грыбочкі

Настаўнік дзяцей пытае:
— Надышла пара грыбная.
Ці ўсе грыбы вядомыя,
Нам сапраўды ядомыя?

Адазваўся грыбнік Колька:
— Магу адказаць я толькі,
Што некаторыя якраз,
Можам мы з'есці толькі раз.

# ЧАМУ НАША СЯЛО НАЗЫВАЕЦЦА СКУПАВА

Аднойчы прыйшоў да нас дзед Раманчук. Гэта быў стары чалавек, якому, як казалі людзі, было сто гадоў. Мы, маладыя хлапчукі, абступілі дзеда і сталі пытацца:

— Дзедку, колькі вам лет? Сядайце і раскажыце, як то даўней было? Чаму наша сяло называецца Скупава?

Дзедка паставіў сваю кульбаку ў куточку, сеў на лаўку каля стала і стаў гаварыць:

— Дзеткі мае, у мяне за плячыма больш за дзевяноста гадоў. Як сон, прайшло жыццё маё. А мне здаецца, што я толькі ўчора нарадзіўся на свет... Цяжкае маё жыццё, але жыць хочацца. Просіце расказаць вам пра Скупава. Яго так называюць не таму, што тут жывуць скупыя людзі. Даўным-даўно тут быў двор. Стаяў ён на ўзгорку па скоснай дарозе, што ідзе на Сухадолы: паміж Смольным і Бондаравым Кутом. Пад узгоркам была крыніца, працякала рэчка, быў там рыбны стаў. Двор згарэў. Тагды зямлю распрадалі людзям. Вось, можа, таму наша сяло і назвалі Скупава, бо зямлю скупілі людзі з розных старон... Спярша Скупава было адно, а пасля пажару раздзялілася на Старое і Новае Скупава.

Калі тут лес быў вырублены пад поле, таго ніхто не памятае, то было даўным-даўно. Толькі чуў я ад старых людзей, што руская царыца Кацярына падарыла Скупава свайму палкаводцу Сувораву. Ён быў генерал над усімі генераламі і называўся генералісімус.

# Польска-беларуская крыжаванка № 43

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 39:**

Шаг, бівак, кашуб, ах, шарачок, шаша, ой, ла, тан, лёт, на, цыбаты. Шум, шата, каша, баран, ціша, вучоны, абой, як, ла, лёт, шахматы.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Оля Пугацэвіч** з Беластока, **Оля Кудашэвіч, Матэвуш Галубовіч, Караліна Шчасновіч, Міхал Паніквіцкі, Марынка Куклік, Юля Ніцэвіч** з Бабікаў. Віншуем!

Listopad
Cykl
Czas
Zmiana
Cezar
Ty
Dopłata
Rosa
Len
Ara
Chód
Klej
Bo
But
Klon
Okazja

# Фармаванне духовага космасу

**Бадай два гады мінула з таго часу, калі я, кіруючыся з Лосіц у колішні „рускі" Драгічын, заўважыў з аўтобуса касцельны будынак з характэрнай для цэркваў паўкруглай апсідай. Мясцовасць называецца Лысаў і распалажана яна недалёка за Нямойкамі; апошняя назва не павінна быць чужой пасажырам паяздоў, што курсіравалі між Чаромхай і Седльцамі — гэта назва аднаго з чыгуначных прыпынкаў між згаданымі станцыямі.**


Касцёл у Лысаве

І, праўда, архітэктурны меланж лысаўскага храма з'яўляецца сведкам складанага мінулага тамашняй зямелькі. Пісьмовыя крыніцы дазваляюць меркаваць, што першая лысаўская царква была пабудавана недзе ў палове XVII стагоддзя; што было раней — канула ў забыццё. Партал Драгічынскай дыяцэзіі: „Maciej Krassowski, stolnik podlaski (1666-1678) i podkomorzy mielnicki (1678-1688) był prawdopodobnie fundatorem pierwszej, drewnianej, unickiej świątyni pw. św. Praksedy i św. Mikołaja Cudotwórcy. W 1755 roku Jan Gwido Kuczyński, chorąży mielnicki (1737-1765) wystawił nową cerkiew pw. św. Michała Archanioła, którą uposażył w 1757 roku. W 1785 roku została ona gruntownie przebudowana. W ramach prześladowań unitów w 1867 roku parafianie musieli uiścić wysokie kontrybucje. Zimą 1875 roku kościół unicki w Łysowie został zamieniony siłą przez władze carskie na cerkiew prawosławną. W 1880 roku rząd carski rozebrał unicką świątynię, a na jej miejscu wzniósł murowaną cerkiew prawosławną. Z chwilą ukazania się 30 kwietnia 1905 roku carskiego ukazu tolerancyjnego wszyscy unici należący do tej parafii przyjęli obrządek łaciński. W czasie I wojny światowej w 1914 roku Niemcy zdarli z kościoła blachę cynkową. Po odzyskaniu niepodległości świątynia została rewindykowana katolikom, plebanię zaś przejęła Powiatowa Rada Szkolna. Obsługę duszpasterską świadczyli wówczas księża z parafii Niemojki".

Таблічка на касцельным будынку паведамляе, што гэта „Kościół pod wezwaniem Matki Boskiej Różańcowej czyli Zwycięskiej". Іншая таблічка: „Za Kościół Katolicki i Polskę została zamęczona w 1875 r. przed świątynią unicką w Łysowie Teresa Midzicka z Ruskowa".

Насупраць касцёла плябанія, адгароджаная ад вуліцы муравана-жалезнай агароджай. А на ёй, на той агароджы, выстава фатаграфій — вельмі прыгожых здымкаў, у іх ліку здымкаў з наваколля нашага Бельска: царкоўкі з Грыневіч ці восеньскай акраіны Спічкоў...

Лысаў, аднак, мае ў сваім гістарычным дасье не толькі падзеі канфесійнага характару. У гэтай мясцовасці ў 1889-1890 гадах пражываў вядомы польскі пісьменнік Стэфан Жаромскі. Гэтую пабыўку згадвае ён у сваіх дзённіках. Варта прывесці некаторыя з іх вытрымкі, некаторыя рэфлексіі карыфея польскай літаратуры...

„Wczoraj w nocy przyjechałem tu, aby odpoczywać po burzach, a może... aby umrzeć wśród nieznanych ludzi, których kochałem od dawna. Kraj unitów, kraj prawosławia dziś, kraj chłopskiego Moskalom oporu. Jeżeli znosić tu będę wiele szlacheckich przykrości, to mam nadzieję tę jednę, że będę w możności poznania tego ludu, niedoli którego minstrelem być od lat tylu pragnę. (...) Wczoraj byłem z wizytą u państwa doktorów F. w Patkowie. Pani doktorowa jest rzadką kobietą, z którą mogę mówić przyjemnie. Ja nie znajduję zupełnie przyjemności w rozmowie z kobietami. Wszystkie wydają mi się wysoce głupimi. Z panią doktorową nie mówi się o rzeczach mądrych, lecz o rzeczach wszystkich. (...) Naprzeciwko mojego okna ciągnie się płaszczyzna, oddzielona ode mnie parowem, dalej ciągnie się wieś, a pośrodku jej — cerkiew moskiewska. *Rossija, czistaja Rus'* — o pięć mil od Siedlec. Chłopi mówią po moskiewsku w połowie wsi, w drugiej połowie (katolicy) po polsku. Rezultat łatwo przewidziany. I taki tu spokój, tak straszny spokój, podczas gdy przewala się najstraszniejsza z kart historii: wynarodowienie... (...) I tworzą się dzieje lat ostatnich, podobniejsze do poematu, do epopei... niż do życia na ziemi... pod ich wpływem całe pokolenia rodzą się z aureolami na czołach... z krzyżami na piersiach krwawymi... z pragnieniem męczeństw i ofiary... pod ich wpływem wszyscy znoszą na stos palącej się ojczyzny do ostatniej koszuli i do ostatniego dziecięcia. Póki się żyje, cierpieć potrzeba, lepiej więc cierpieć dla przekonań, niż z duszącego milczenia i weszłych wewnątrz oburzeń. (...) W gruncie rzeczy — najzupełniej jest mi obojętną rzeczą, czy wierzę w Boga, czy w paznokieć dużego palca u nogi. (...) W szczerym polu, ukryty w zaspach śniegowych, otoczony murem kamiennym z nie spojonych głazów — czernieje cmentarz. Odsunąłem z wysiłkiem zardzewiały wrzeciądz starych wrót i wszedłem. Stoi wiele krzyżów próchniejących, wysokich. Pośrodku wznosi się kapliczka z ledwo ociosanych drewien, szara ze starości; żelazny, przekreślony krzyż na jej szczycie pochylił się na bok, okna powybijał wiatr czy kamienie, drzwi zamknięte na wielką pierwotną kłotkę... Nagrobków tam nie ma, wyższe tylko zaspy tu i tam wznoszące się pod krzakami każą się domyślać, że tam śpią chłopy umarłe. Na jednym z krzyżów na czerwono pomalowanych, białą olejną farbą wypisane, stały słowa: „Кресту твоему покланяемся — Борис умер в апреле 1888 года". Gdzie indziej widniała żółta blacha z napisem: „Здесь покоится Феодор Иванович Михайлов, крестьянин деревни Лысов — скончался" itd. W dali czerniała wieś, niebieskie dymy znaczyły się wstęgami na szaroniebieskim niebie, różowa ze złotym krzyżem cerkiew zdawała sie uśmiechać i czarować wzrok... (...) W Siedlcach nająłem dorożkę jednokonną i ruszyłem. Wielki ruski koń zaprzężony w hołoblę rwał z kopyta, małe saneczki kute mknęły po gładkiej, ujeżdżonej szosie. (...) Miejscowy nauczyciel wiejski — Timosza — ma mię skarżyć do jakiegoś urzędu za przebywanie na Podlasiu. Niechaj skarży. Chciałbym przy końcu życia zaznać pieszczoty z ręki Moskali. O, jakże pragnę męczeństwa z ich ręki! Rodzi się w duszy nagły a nieustanny popęd wyzwania ich i wycierpienia tej miary męczami, jakiej zasługuje szlachetność duszy mojej. Pragnę, do upojenia pragnę wylania oburzeń i nieznośnych pogard dla nich, wyrzucenia z duszy gnijących gnojów wstrętu i nienawiści, wyskrobania i ekstyrpacji tego miliona na dzień boleści, jaki się wchłania tu co dzień, patrząc na wynarodowienie ludu, na upodlenie i upadek moralny klas przemożnych i na brutalną przemoc, chodzącą w biały dzień. Patrzę i słucham, i dowiaduję się powoli — a robi to wszystko takie wrażenie, jakby związano człowieka, rozpruto mu żyły, wysączano krew — ot, i tam, gdzie ona zapulsuje, gdzie drgnie wena — pilni felczerzy badają dobrze, otwierają nową ranę i tę podłą, zastygłą, skrzepłą, nieżywą, plugawą krew wyciskają umiejętnie. (...) Dawniej szanowałem patriotyzm arystokratyczny, obecnie przybyło mi bólu i z tego względu, że gardzę tym patriotyzmem. Dla nich dobry jest naczelnik Kutanin, ponieważ „dla szlachty ma szacunek — on sobie tylko chłopów dusił i ciągnął na prawosławie, ale to trudno"... (...) Proboszcz K. w Niemojkach bierze za pogrzeby od chłopa po 30 rubli, wyzyskuje wszelkimi sposoby, siedząc na pieniądzach; nie zapłaci 50 rubli kary, woli nie święcić np. na Wielkanoc szlachcie i chłopom, choć mu nikt tego nie bronił. Natomiast proboszcz, którego imię z miłością tu piszę, ks. Szpryngier z Górek — nie boi się wywiezienia, nie boi się kary pieniężnej, pójdzie na Sybir. Żyje jak apostoł w jednej sutannie, zasilany przez parafian, głosząc jawnie, że nie odepchnie unity, gdy ten doń przyjdzie na spowiedź, że nie posłucha nikogo, prócz głosu sumienia. U niego kościół w niedzielę obłężony, unitów schodzi się moc taka, że żandarmi rady dać sobie nie mogą. (...) Z wolna i nieznacznie otaczać mię zaczynają fale mistycyzmu dziwnego w swej treści. Wierzyć zaczynam w wielką, biblijną moc ofiary jednostkowej na odkupienie gromadnej całości. Wierzyć zaczynam w rozkosz, jaką przynosić musi męczeństwo z ręki wrogów ojczyzny. Wierzyć zaczynam w chrystusostwo życia, w naśladowanie Husa, w naśladowanie wygnańców naszych. Och, bo czyż nie wygnaniem, pełnym po brzegi nostalgii do umiłowanej, do wyśnionej ojczyzny, jest życie nasze? (...) Na wzgórzu stoi wiatrak. Wszedłem nań, aby się przyjrzeć wynurzającej się pierwszy raz okolicy. Lasy poprzerzynane smugami łąk ciągną się ku Bugowi — rzece, za którą już nie ma Polski. (...) Chodziłem rano pod wieś na spacer. Obok stawu, za płotem ogrodowym płynie strumień w wąwozie. Na dnie jego prały w strumieniu dziewczęta. Jednocześnie chłop wyjeżdżał z wozem pod górę z wąwozu. Z wozu zaczęły zlatywać jedna po drugiej deski, jakie wiózł. Jedna z dziewczyn dostrzegła to i zawołała: *Wasili! smotri, doski u tiebia z woza letiat — smotri, Wasili, smotri!* (...) Jeden z synów unity, prawosławnego chłopa Leoniuka, umiejący pisać i czytać po polsku i po rusku, zbiera dla mnie pieśni ludowe, bajki i opowiadania. Chłopak ten ma ze dwadzieścia lat, uczył się w miejscowej szkole wiejskiej u pana Timoszy, padalca moskiewskiego, jest prawosławny — i to on, nowe pokolenie, nie chodzi do cerkwi, nie spowiada się u popa, idzie z ojcem i braćmi do spowiedzi o ośmnaście mil stąd... On... nienawidzi Moskali! Oto jest błogosławiona nagroda tego małego płomyka oświaty, jaki mu oświecił czoło. Oto jest nasza niezwyciężona w walce ze zwierzęciem moskiewskim broń. Gdybym mógł znaleźć takich Leoniuków więcej... Gdybym mógł znaleźć, wiedziałbym, że oni sami już idą, bez nas".


Касцёл у Нямойках

Даўгаватая гэтая вытрымка з апісаннем некаторых рэалій колішняга цывілізацыйнага памежжа, якія пакінулі невясёлы адбітак у духовым космасе палякаў не толькі на міжваенная двацццаігоддзе; з яго яшчэ і сёння не ўсё на памежжы праветрылася. Але на іншым памежжы, на памежжы дэспатызму і свабоды, быццам нічога, апрача тапаграфічных і суправаджаючых іх моўных каардынат, не змянілася...

Лысаў задзівіў мяне яшчэ адным феноменам: на сценах паветкі тамашняга аўтобуснага прыпынку, на якіх у іншых мясцовасцях поўна бывае непрыстойнасцей, віднеюць папісаныя тамашнім маладым пакаленнем даволі сімпатычныя фразы...

У палове дарогі з Лысава да чыгуначнага прыпынку Нямойкі знаходзіцца і аднайменная вёска, яна касцельная з самога пачатку; першы касцёл у Нямойках узведзены быў у палове XV стагоддзя. А чыгуначны будынак, які шчасліва вытрываў усе паслядоўныя войны, прайграе мірнаму жыццю, калі асфальт бярэ верх над рэйкамі.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Начальства без адказнасці

Хутка мінула сёлетняе лета. Ды і было яно нейкае трывожнае: то халаднаватае, то спякотнае і з катаклізмамі. Не ўспелі мы нацешыцца нашай зялёнай выспай, як неяк раптоўна стала трацiць яно свае вясеннія колеры і адплываць у сінюю даль. Нам асталася восень і крызіс, якога канца і краю не відаць. А з ім, вядома, рост цэн на тавары і прадукты ды беспрацоўе. Найгоршая бяда, канешне, беспрацоўным. Мала радасці і ў тых, якія маюць яшчэ працу, але з дня на дзень могуць яе страціць. Ды і заробкі часценька вельмі скупенькія, галаднаватыя. І так аж да шэсцьдзесят сёмага года жыцця... калі зможаш у такіх умовах дажыць, чалавеча...

А мела быць так цудоўна і справядліва — заходняя дэмакратыя: праца лёгкая, змеханізаваная, заробткі прыстойныя, заходнія. Крыўды, адным словам, ніякай, бо бараніць працоўны люд будуць не нейкія прахадзімцы, а законныя і справядлівыя капіталістычныя законы. І так весела і аптымістычна аж да самой пенсіі, якая мела быць не так ужо і за гарамі. А ўжо на капіталістычнай пенсіі адна толькі благадаць і раскоша чакае — паспявай толькі „інкасаваць" свае кроўныя з усіх пенсійных „філяраў" і выбіраць на глобусе месцы, дзе яшчэ не быў, ды прамай наводкай дуй туды. Так мела быць — і мы, старапартфельныя пенсіянеры, сталі нават зайздросціць тым новапартфельным. А рабіць гэтага не варта. Бо зайздрасць рэч нядобрая, нехрысціянская яна. Магчыма менавіта яна і зашкодзіла нашым будучым пенсіянерам. Усё стала вядома, што за іх „філярныя" грошыкі будуць адпачываць у промнях паўднёвага сонца, ляжаць у цяньку какосавых пальмаў ды купацца ў цёплых марах і акіянах не яны, а тыя, што іх пенсійнымі „філярамі" гаспадараць. Яны робяць гэта ўжо даўно.

Іншыя нашы пенсійныя рэфарматары заселі ўжо ў Еўрапарламенце і рыхтуюць там рэформы ўжо для цэлай Еўразіі. Так што хутка адрыгнецца і вам, шаноўныя еўрапейцы...

І чорт з імі, з нашымі гора-рэфарматарамі і еўрапейцамі. Вяртаймася зноў да нашых сучасных спраў, да нашага жыцця-быцця, да нашых старапартфельных пенсіянераў і іх восеньскіх роздумаў. Бо думаць напэўна ёсць аб чым і хтосьці ж мусіць думаць не толькі пра сябе, сваю сям'ю, але і пра іншых, а таксама пра сваю краіну і свет цэлы. Тым больш тады, калі як бы не ўсё ў парадку з гэтай краінай і светам цэлым. Іх чарвяк падгрызае і штораз мацней яны кульгаць пачынаюць.


www.finanse.egospodarka.pl

У нас, як было ўжо сказана, крызіс і сварлівая дэмакратыя. Афёр і аферелаў не толькі не паменшала, а як бы наадварот. За каштоўныя гаспадарчыя няўдачы і некампетэнцыю начальства адказнасці ніякай не нясе. За дрэнныя інвестыцыі і пастановы таксама. За агромныя грашышчы (значна большыя, чым такія пабудовы каштуюць за граніцай) збудавалі напрыклад ненадзейны спартыўны стадыён у Варшаве. Але аказалася, што яшчэ трэба заплаціць будаўнікам-партачам і высокія ўзнагароды, бо хтосьці адказны недагледзеў, некампетэнтны быў ці проста зрабіў гэта спецыяльна. І нічога — мы плацім, а яны напэўна ўсміхаюцца. Пры такім гаспадаранні нават калі б у нас былі, як кажуць, залатыя горы, таксама б не хапіла. А загляньце ў наш лес, напрыклад, у нашу Белавежскую пушчу — там так патрэбная людзям драўніна проста пакотам на зямлі ляжыць і гніе, а купіць яе ні-ні, нельга, эколагі забараняюць. Як бы нашай дзяржаве зусім грошы непатрэбныя былі. Вуллі з пчоламі таксама чамусьці паставіць у пушчы нельга. Адным словам, куды не глянеш гаспадарскім вокам — усюды перастройка патрэбная. На жаль, капіталістычныя перастройкі нам таксама не ўдаюцца.

Пенсійная наша рэформа з усімі сваімі „філярамі" і фондамі, як бачым, накрылася. Іншыя рэформы таксама. Вынік атрымаўся такі: найбольш прадуктыўная частка нашага грамадства, моладзь, уцякае за граніцу. Астаюцца дома ў асноўным пенсіянеры-старапартфельнікі, а з імі добрай перастройкі і дабрабыту не зробіш.

Нашы ўлады, вінаватыя ў крызісе, апраўдваюцца тым, што і ў многіх іншых краінах дзеецца ненайлепей — бушуе крызіс. Паказваюць пальцам на Грэцыю, Іспанію, Партугалію і іншыя заходнія краіны. Нават прабуюць даказваць, што гэта яны, заходнія краіны, вінаваты ў нашых гаспадарчых няўдачах. Пра гаспадаркі суседніх усходніх, нееўрасаюзных краін, калі і гаворaць, то толькі адмоўна, крытычна, бо там усё не так як трэба і баста...

А на самой справе і ў суседніх нам усходніх краінах ёсць і свае гаспадаркі, і свой крызіс. Нават не адзін, а некалькі ў адным: эканамічны, палітычны, дэмаграфічны і іншыя. І ва ўсіх трох сястрычак: Беларусі, Украіны і Расіі; мог бы гэты крызіс і абмінуць іх. Яны ўжо прыстойна капіталістычнымі і дастаткова набожнымі сталі. Ды накрызісаваліся-нагараваліся ў свой час нямала. Якія толькі крызісы там і не пабывалі, значыць, пара б ім адпачыць і пажыць па-людску. Усім ім я вельмі спачуваю.

За Украіну я, канешне, менш перажываю, як за Беларусь. Хаця клопатаў і ў яе яшчэ многа і хопіць іх ёй надоўга. Але найважнейшага — сваёй незалежнасці і ўкраінскасці яна, думаю, не зменіць, не прагандлюе. І гэтага я ёй ад усёй душы жадаю...

А за Беларусь і беларусаў я моцна перажываю. Яны палітычна і нацыянальна проста нізкімі сталі. Без старэйшага брата проста жыць не ўмеюць і не хочуць. Хто мае быць тым старэйшым братам — іх таксама не надта турбуе. Такія ж напляваценьскія адосіны ў іх і да роднай мовы, гісторыі, культуры. Не ўва ўсіх, канешне, але напэўна ў абсалютнай большасці. Вось таму так крыўдна-крыўдна робіцца на душы. Тым больш, што ад таго, у якім стане і кандыцыі будзе Беларусь і яе беларушчына, у многім будзе залежаць і сітуацыя нас, тутэйшых беларусаў і нашай тутэйшай беларушчыны. Нам на ёй напэўна залежаць. І павінна вам залежаць...

І кантрастная Расія. Яна багатая і бедная, савецкая і капіталістычная з намёкам на імперскую, святая і грэшна-атэістычная, еўрапейская і азіяцкая. Пры ўсіх сваіх магутных козырах яна ніяк не можа выйсці на простую дарогу. У ёй таксама некалькі крызісаў зліліся ў адзін. Бадай найбольш пагрозлівы з іх — гэта крызіс даверу. Ёсць Расія сталічная і правінцыйная, гарадская і сельска-дзеравенска-калгасная. Менавіта гэтая апошняя Расія найбольш пакрыўджаная і пагарджаная. Як схамілі яе яшчэ ў савецкі час, так і дасюль яна такой астаецца. Менавіта там пражывае пастаянны крызіс. Працы там няма, або ёсць абы-якая, малаплатная. Вёскі ўбогенькія, хаткі драхленькія і садочкі такія ж ды татальнае бездарожжа. І як бы было яшчэ мала бед, у апошнія гады стала проста правілам, што калі ўлетку іх сёлы і палеткі не пагарадь датла, то іх вадой і балотам пазаліваe. І як жа ж, скажыце, не напіцца ў такой сітуацыі?!.

**Васіль САКОЎСКІ**

# Юбілей Раманоўкі

**Раманоўка — вельмі працяглая вёска ў Сямятыцкай гміне, якая раскінулася паміж шашой у Гарнова і краёвай дарогай Беласток — Люблін. Гэта тэрыторыя колішняга маёнтка ў Баціках-Дальшых, які ўваходзіў у састаў былога сапежынскага ключа ў Сямятычах. На пераломе XIX/XX стст. ключ быў распрададзены; узніклі тады або самастойныя маёнткі (напр. Альтайн роду Кабылінскіх), або сотні новых сялянскіх гаспадарак.**





Засяленне Раманоўкі пачалося ў першым дзесяцігоддзі XX ст. і закончылася ў 1913 г. Новаўтвораную вёску назвалі Раманоўкай у гонар 300-гадовага юбілею панавання царскага дому Раманых, які адзначаўся менавіта ў тым годзе.

З ініцыятывай урачыста адзначыць 100-гадовы юбілей Раманоўкі выступіў нястомны Дарафей Фіёнік са Студзіводаў. Па дамоўленасці з мясцовым настаяцелем а. дэканам Андрэем Якімюком з Сямятыч падрыхтавалі ён самую прыгожую і найбольш разумную форму ўшанавання юбілею: у вёсцы ўзвялі адпаведную акалічнасці праваслаўную каплічку, а ў месцы пасялення прадстаўніка роду Фіёнікаў — прыгожы драўляны крыж. Абодва сакральныя аб'екты выканалі мастакі, які жывуць па другі бок лініі Керзана, у цяперашняй беларускай дзяржаве. Гэта таксама мае сімвалічнае значэнне, пакольк першыя пасяленцы прыбылі ў Раманоўку з наваколля Бельска, цяперашняй Гайнаўкі і з-пад Ваўкавыска.

Арганізатары паклапаціліся аб адпаведнае акалічнасці афармленне мерапрыемства: свецкія ўлады прадстаўляў віцэ-маршалак Падляшскага ваяводства Валянцін Карыцкі, а малітвы ўзначаліў епіскап сямятыцкі Георгій. На заканчэнне рэлігійнай часткі быў зачытаны поўны спіс тых, якія пасяліліся на гэтай тэрыторыі, ствараючы Раманоўку. Усе яны былі праваслаўнымі беларусамі.

А пасля перад вясковай святліцай адбыўся канцэрт беларускіх фальклорных калектываў. Выступілі запрашаныя Дарафеем Фіёнікам калектывы „Хаціславяне", „Гаманіна", „Світанак", „Хмялеўскія валацугі" з Беларусі і заслужаная для беларускай культуры „Жэмерва" са Студзіводаў, якая сёлета адзначае 10-годдзе сваёй дзейнасці. А ў святліцы працавала выстава „Там па маёвуй росі — песня, якая не змоўкла".

Важным таксама з'яўляецца рашэнне штогод у кожную трэцюю нядзелю верасня адзначаць свята Раманоўкі.

**Тэкст і фота Марка ЦЫБАРТА**

# Усё з любоўю

Злыдні, «чорныя характары» — Зампаліт у «Жыве Беларусь!» Кшыштафа Лукашэвіча (сааўтар сцэнарыя, актывіст апазіцыйнага «Маладога фронту» Франак Вячорка) і святар Тырэзій у «Антыгоне» беластоцкага Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў рэжысуры Агнешкі Карыткоўскай-Мазур. Асабліва з гэтых роляў ведаюць беластачане акцёра мінскага Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Алеся Малчанава. У жыцці ён цёплы, добразычлівы і адкрыты чалавек. Яны маглі пераканацца ў гэтым на сустрэчы, якая адбылася з ім у Дыскусійным клубе Згуртавання дзеля дзяцей і моладзі — навучэнцаў беларускай мовы АБ-БА ў дзейнічаючым з пачатку мінулага года «Склепе з культурай» у беластоцкай Пачатковай школе № 4.

Злева: Мікола Ваўранюк і Алесь Малчанаў

На сустрэчу Алесь прыехаў на ровары. Дарэчы, ад часу як з'явіўся ў Беластоку ў верасні з нагоды супрацоўніцтва з драматычным тэатрам, рухаецца толькі на ім. Ён прызнае, што яго любімым месцам для адпачынку з'яўляецца Крым. Вядзе старонку на фейсбуку на беларускай мове. Акцёрствам займаецца на працягу чатырнаццаці гадоў і з'яўляецца адным з самых вядомых акцёраў у Мінску. Але так было не заўсёды ў яго дарослым жыцці, было і так, што ён быў настаўнікам у пачатковай школе. Сустрэчу ў дыскусійным клубе АБ-БА пачаў з прызнання:

— На працягу чатырнаццаці гадоў маёй кар'еры (тут ён засмяяўся — М. Х.) гэта мая першая сустрэча з гледачамі. Я не даю згоды на такія публічныя сходы, таму што яны павінны адбывацца з канцэптуальнымі мастакамі, напрыклад, з пісьменнікамі. Я проста акцёр, перакладчык думак іншых.

Вядучы сустрэчу тэлежурналіст Мікола Ваўранюк пачаў яе ад прыгадання культавага спектакля «Тутэйшыя» на аснове драмы Янкі Купалы, флагманская прадстаўлення гадоў таму мінскага Нацыянальнага тэатра, у рэжысуры цяперашняга ягонага мастацкага кіраўніка Мікалая Пінігіна. У версіі гадамі таму, якая была паказана на Падляшшы, Алесь Малчанаў не іграў — як пасля замена — Янку Здольніка. Агнешка Карыткоўска-Мазур, дырэктарка «Вянгеркі» ў апошнія дні запрапанавала яму штат. На жаль, пакуль гэта немагчыма. Ён мае абавязацельствы ў родным тэатры, у якім у цяперашні час адбываюцца рэпетыцыі — таксама з яго ўдзелам — «Пана Тадэвуша». Прэм'ера намечана на студзень. Аб цяперашняй сітуацыі ў тэатры імя Янкі Купалы ўспамінаў з горыччу:

— Наш тэатр павінен зарабляць грошы (некалькі месяцаў таму запатрабаваў, каб тэатр быў у рашучай меры самадастатковым асабіста Аляксандр Лукашэнка — М. Х.), а прытым ставіць добрыя спектаклі. Гэта міф, што трэба ў гэтым выпадку ставіць толькі лёгкую камедыю. Я сказаў гэта ў вочы мастацкаму кіраўніку, але гэта ён вырашае. Ён разваліў тэатр. Калісьці ў нашым тэатры былі добрыя спектаклі, і акцёры хацелі сустракацца пасля іх і прыватна, але не так як цяпер проста скардзіцца аб тым, што кепска. Можа быць, «Пан Тадэвуш» аб'яднае нас.

Расказваў:

— Спектаклі ў Купалаўскім тэатры ставім, вядома, па-беларуску, але ў першы раз Мікалай Пінігін, цяпер пры працы з «Панам Тадэвушам», вядзе рэпетыцыі таксама па- беларуску. Гэта цяжка, таму што нашы акцёры, я таксама, выхаваны ў рускамоўных тэатральных школах і ў сувязі з неабходнасцю больш хуткай сувязі на спецыялізаванай лексіцы, у час рэпетыцый лягчэй кантактавацца на рускай мове.

Большая частка сустрэчы ў клубе АБ-БА была прысвечана фільму з 2012 г. «Жыве Беларусь!» у рэжысуры Кшыштафа Лукашэвіча. Алесь Малчанаў там іграў важную ролю, разам з Вінсентам Папко і Каралінай Грушкай. Большая частка сцэнарыя аснаваная на жыцці Франка Вячоркі. Галоўным героем з'яўляецца рок-музыка Мірон. Адкрыта аспрэчвае сістэму, якая праследуе яго суайчыннікаў, асабліва тых, хто мае мужнасць, каб гаварыць па-беларуску, мастак падвяргае сваю каманду занясеннем у чорны спіс, што абазначае адсутнасць публічных выступаў. Сам крытыкай улады паплачваецца прызваннем яго ў армію і жорсткімі рэпрэсіямі з боку камандуючых. Ашарашаны чарговымі пра-

працяг ☞11

# www.alyrik.na.by



Для паспалітага люду галоўнае адрозненне паэзіі ад прозы гэта рыфма. Пры гэтым практычна кожны з нас ведае пра так званы верлібр альбо вольны (свабодны, белы) верш, які не падпадае пад гэтае „звычайнае" адрозненне, бо па вызначэнні ён з'яўляецца адмовай ад усіх так званых другасных прызнакаў вершаванай мовы: рыфмы, складовага метра, роўнасці радкоў па колькасці націскаў і складаў і гэтак далей.

Хоць лічыцца, што вольныя вершы больш распаўсюджаныя ў англійскай літаратуры, пэўна, выступаюць яны ў кожнай еўрапейскай мове. І беларуская тут не выключэнне. Беларускаму верлібру цяпер прысвечаны цэлы сайт у інтэрнэце.

Калі цікаўны карыстальнік набярэ на сваім камп'ютары адрас **www.alyrik.na.by**, то перад яго вачыма адкрыецца напачатку не зусім зразумелая старонка, якая мае крыху дзіўную назву „Аддзел беларускага вэрлібру. Сэкцыя Кірылы Анохіна". Выглядае яна неяк зусім проста — на блакітным фоне з правага боку месцяцца выйсці на некалькі таксама дзіўных рубрык, а пасярэдзіне відэа з нейкім хлопцам, які цягам паўтары хвіліны чытае нам белыя вершы. Пэўна, гэта Кірыла Анохін, але пра гэта нідзе не паведамляецца.

У „Аддзеле беларускага вэрлібру" ўсяго толькі пяць рубрык — „Пра", „Пра Яе", „Пра Яго", „Пра Астатняе" і „Сьпіс". Калі пра другую і трэцюю рубрыкі можна здагадацца, што ходзіць пра жанчыну і мужчыну, то ва ўсе іншыя трэба зазірнуць, каб зразумець, чаму яны прысвячаюцца.

„На гэтым сайце вы знойдзеце мае вэрлібры, аб'яднаныя ў 3 разьдзелы: „Пра Яе", „Пра Яго" і „Пра Астатняе", — і частку ўсходнеславянскай лібрычнай спадчыны ў разьдзеле „Шэдэўры вэрлібрыстыкі", дзе знаходзяцца вэрлібры Максіма Багдановіча, Максіма Танка, Алеся Разанава, Ніны Мацяш, Аляксандра Блока, Уладзіміра Бурыча, Карэна Джангірава, Вячаслава Купрыянава, Аркадзя Цюрына...", — гаворыць аўтар сайта на старонцы „Пра". На ёй жа месцяцца падрубрыкі „Артыкулы" і „Цытаты". Калі ў першай знаходзіцца толькі адзін артыкул, прысвечаны верлібру, то ў другой мноства цытатаў, якія тычацца такога роду вершаскладання.

Рубрыка „Пра Яе" і „Пра Яго" не зусім адпавядаюць сваім назвам. Падаецца, іх больш апраўдана было б назваць „Пра мяне" і „Пра маю каханую", бо ўсё там распавядаецца ад першай асобы, якой, трэба разумець, і з'яўляецца аўтар „Аддзела беларускага вэрлібру" Кірыла Анохін.

А вось старонка „Пра Астатняе" больш поўна раскрывае сутнасць вольнага верша, бо там распавядаецца пра многае, тым самым дэманструючы шматграннасць верлібра. Чытаючы вершы ў той рубрыцы, прыходзіш да высновы, што аўтар мае вельмі арыгінальны і цікавы погляд на свет, без чаго, пэўна, не маглі б складацца, напрыклад, такія вершы: „Верасень. Тыя,/ што не лятуць у вырай,/ ідуць у школу" альбо „Лістапад. Вецер/ вырывае ў мяне з рук/ твой апошні ліст".

У „Сьпісе" мы можам пабачыць вялікую колькасць першых радкоў усіх вершаў, якія змешчаны на сайце. Гэтыя радкі з'яўляюцца гіперспасылкамі, якія і выводзяць на той ці іншы верлібр. Дарэчы, прачытаўшы змешчаныя на сайце белыя вершы, прыходзіш да высновы, якую раней зрабіў амерыканскі паэт Томас Эліот: аўтар верлібра вольны ва ўсім, калі не лічыць неабходнасці ствараць добрыя вершы.

■ Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з Календара

Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара



Араў ніву асветы

# 190 гадоў з дня нараджэння Адама Плуга

Беларуска-польскі пісьменнік і публіцыст Адам Плуг (сапраўднае яго прозвішча Антон Пяткевіч) нарадзіўся 23 кастрычніка 1823 г. у вёсцы Замосце на Случчыне. Паходзіў ён са шляхецкай сям'і. У 1831 г. бацька атрымаў пасаду падлоўчага ў радзівілаўскіх уладаннях і сям'я пераехала ў мястэчка Жукаў Барок на Стаўпеччыне. У 1842 г. Адам Плуг скончыў Слуцкую гімназію, далей два гады вучыўся ў Кіеўскім універсітэце — на філасофска-літаратурным факультэце. Яшчэ калі жыў у вёсцы Жукаў Барок, што над Нёманам, пасябраваў з Людвікам Кандратовічам, які пазней стаў вядомым пад псеўданімам Уладзіслаў Сыракомля. Наведваў Сыракомлю ў фальварку Барэйкаўшчына. Працаваў хатнім настаўнікам на Падолі. У 1856 г. у Мінску сустракаўся з Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам, Станіславам Манюшкам.

У 1857 г. Адам Плуг ажаніўся з Людвікай Сержпутоўскай, узяў у арэнду маёнтак Паток каля Вінніцы (сёння Украіна), але праз пару гадоў адмовіўся ад арэнды і пераехаў у Жытомір. Там разам з жонкай заснаваў мужчынскую гімназію і пансіянат, аднак у 1861 г. расейская ўлада пазбавіла іх права трымаць гэтую ўстанову. У 1862 г. Сержпутоўская была арыштавана за ўдзел у антыўрадавых маніфестацыях і зняволена ў горадзе Оўруч. У 1864 г. ужо сам Антон Пяткевіч трапіў пад арышт у Жытоміры, пазней сядзеў у кіеўскай турме. Не маючы магчымасці ва ўмовах акупацыі знайсці сталую працу, часта мяняў месцы жыхарства, перабіваючыся часовымі заробкамі як гувернёр. Пасля смерці жонкі ў 1868 г. сітуацыя яшчэ больш пагоршылася. У канцы 1874 г. Плуг прыняў прапанову выдаўца Францішка Левенталя і пераехаў у Варшаву. Быў адным з арганізатараў беларускага літаратурна-асветнага гуртка. У 1879-1890 гг. — рэдактар часопіса „Kłosy" („Каласы") і аўтар шматлікіх матэрыялаў пра Беларусь у ім. У 1891-1903 гг. галоўны рэдактар „Вялікай усеагульнай ілюстраванай энцыклапедыі", адначасна літаратурны кіраўнік часопіса „Wędrowiec" („Вандроўнік", 1894-1899), уваходзіў у склад рэдакцыі газеты „Kurier Warszawski" (1899-1903).

Літаратурна дэбютаваў у 1847 г. У 1849 г. напісаў на беларускай мове чатыры апавяданні і адну легенду (захавалася апавяданне „Кручаная баба"). Першы паэтычны зборнік „Родны загон" (1854) аснаваны на рэаліях беларускага жыцця. Зборнік „Каласы з роднай нівы" (1856) прасякнуты фальклорнымі і хрысціянскімі матывамі. Рэалістычны паказ жыцця шляхты ў цэнтры сацыяльных раманаў „Дух і кроў" (1859), „Афіцыяліст" (1866-1867).

Аўтар артыкулаў і нарысаў пра культурнае жыццё Беларусі („Некалькі ўражанняў з падарожжа на Літву", „Уладзіслаў Сыракомля", „Манюшка ў Мінску", і інш.), вершаваных прысвячэнняў Дуніну-Марцінкевічу і Сыракомлю. Адзін з першых перакладаў на польскую мову творы В. Дуніна-Марцінкевіча, Г. Гейнэ, В. Гюго, А. Пушкіна, У. Шэкспіра. Творы Адама Плуга друкаваліся ў Менску (у зборніку „Голас з Літвы", 1859). Супольна з Вінцэсем Каратынскім падрыхтаваў выданне „Выбранай паэзіі" У. Сыракомлі.

Памёр Адам Плуг 110 гадоў таму ў васьмідзесяцігадовым узросце. У варшаўскім касцёле Святога Крыжа ў 1905 г. быў усталяваны бюст пісьменніка.

■ Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

3 ☞ працяг

# Пошукі Беларусі ў Беларусі

века, дык даведваешся ад яго, куды і да каго варта ехаць далей. Мне хацелася б з беларускай тэмай выйсці да шырэйшага кола чытачоў, я ўжо не кажу пра такія рэчы, як прамоцыя выдадзенай кніжкі сярод чытачоў ці нейкая іншая падтрымка.

— А гэты маразм?

— Не толькі ў час пабыўкі, але калі я спрабавала пісаць, гэты дотык да беларускай матэрыі быў настолькі хворы, што я хварэла разам з пісаннем тэксту. Апісаць той хаос, тую развалку, каб знайсці адпаведныя прапорцыі, каб нічога не перабольшыць... Тэма паказвае, што гэта ўсё вынікае з таго, што людзі часам не думаюць, калі забіваюць узнёслыя пачуцці, калі забіваюць парывы патрыятызму, шляхетнасць. Гэта ўсё павінна быць пад аховай і не павінны гэтага кідаць як анучу пад ногі. Для мяне Беларусь гэта любоў, гэта людзі. І думаю, што гэта таксама частка маёй душы.

— Па-польску — для палякаў?

— Гэта прыблізіць паляку Беларусь, пакажа, што яна не такая „страшная”, як гаворыць прапаганда. Беларусь мае такое людскае, мудрае і цёплае абліча. А камяні і цэлая народная медыцына — на гэтым трымаецца Беларусь. Я заўсёды здзіўлялася, калі вярталася ў тыя месцы, што пасля таго, як я ўжо пазмагалася з тэмай і сапраўды адхварэла, там была нейкая яснасць, нешта аднаўлялася.

— Паўставалі забытыя камяні.

— Вялікі мой паклон у бок Лены Глагоўскай, якая падзялілася кантактамі, ведамі, вобразамі, настроямі, пачуццямі..

Творы Ганны Кандрацюк і Пятра Брысача „Гледзячы на Усход” — інтэрв’ю з вядомымі польскімі журналістамі ды падарожнікамі, якія ў сваёй літаратурнай творчасці цікавяцца тэмай „Усходу”, выдадзены ў серыі „Дакументальная літаратура” фондам „Суседзі”. У цэнтры імя Людвіка Заменгофа прадстаўлялі гэтыя дзве апошнія кнігі апублікаваныя некалькі дзён таму фондам „Суседзі” (разам з імі з друку выйшаў „Час Будзіка” Яна Камінскага, які быў героем фестывалю „Сабранае” на мінулым тыдні). Пятро распытаў пісьменнікаў, рэпарцёраў і журналістаў вандруючых на Усход — той далейшы і бліжэйшы. Пятро Брысач глядзіць на Усход з пазіцыі пытаючага. Яго героямі з’яўляюцца людзі, якія ездзяць на Усход, пастаянна ім здзіўленыя і зачараваныя. Гэта цікавыя суразмоўцы, з розным вопытам, разважаннямі аб тых месцах, куды яны едуць, і, такім чынам, з велізарнай колькасцю цікавых гісторый. Сярод іх ёсць і людзі, якія спецыяльна нават не мусяць ездзіць на Усход, таму што проста жывуць там, напрыклад, Марыюш Вільк, які вырашыў жыць на Салавецкіх выспах. Акрамя яго сярод расказчыкаў былі, сярод іншых, Анджэй Стасюк, Яцак Гуга-Бадэр, Магдалена Скопак, Енджай Маравецкі, Міхал Ксёнжак, Войцех Гурэцкі, Мацей Ястшэмбскі, Вацлаў Радзівіновіч, Войцех Смея і Уладзімір Паўлючук. Распавядаюць пра паўвостраў Ямал, Якуцію, Маскву, Краснаярск, Каўказ, Карэлію... Але і пра наш Усход на Падляшшы — напрыклад, пра Грыбоўшчыну, у якой навучаў „прарок Ілья”. Як кажуць выдаўцы, гэтая кніга — паліфанія на тэму Усходу. Узнікаюць пытанні: што такое Усход, дзе ён пачынаецца, як далёка Усход гэта геаграфія, наколькі менталітэт, ці „іншасць”. Наколькі цікавыя тэмы кранулі ў сваіх кнігах Ганна Кандрацюк і Пятро Брысач, можа сведчыць аграмаднае зацікаўленне наведвальнікаў сустрэчы. Спадзяваліся тут гледачоў дзесяткаў пару (як звычайна на прамоцыі выданняў), а вялікая зала была поўная з берагамі. Можна меркаваць, што прамоцыі і ў Польшчы выдання „Суседзяў” выклічуць немалое зацікаўленне.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

10 ☞ працяг

явамі салдацкай «хвалі», Мірон выклікае буру ў антысістэмных сродках масавай інфармацыі, ведучы разам са сваёй прыгожай і гэтак жа непакорнай сяброўкай Верай вэб-дзённік, у якім ён раскрывае найбольш цёмныя бакі жыцця ў рэжымных казармах. Калі яго запісы робяць вэбрэвалюцыю, улады вырашаюць ударыць у неўтаймоўнага бунтара. Алесь Малчанаў расказваў:

— Зараз у Беларусі (па заказе беларускіх уладаў — М. Х.) будзе зняты контрфільм, у якім аб падзеях на плошчы Незалежнасці будзе расказваць герой — амерыканскі «аб’ектыўны» журналіст (смяецца — М. Х.). Будзе цікава паглядзець на нашых калег-акцёраў, якія выступяць у гэтым фільме.

Прыгадаў:

— Яшчэ «Жыве Беларусь!» не ўзнік, а я сам яшчэ не вырашыў, што буду там іграць, а ўжо ў Беларусі вылілася цэлая хваля крытыкі. Я нават не чакаў, што будзе такое дзярмо. Пралілося яно ў першую чаргу на Франка і на рэжысёра.

Падкрэсліў:

— Сам працэс стварэння фільма быў цудоўны. Усё трэба рабіць з любоўю. І так гэта было ў працы над гэтым фільмам. Увогуле, я закрываюся, а ў прафесіі, якую я выконваю, трэба адкрывацца. Кшыштаф Лукашэвіч з’яўляецца выдатным псіхолагам, так што я адкрыўся. З такой павагай да акцёра пры працы над гэтым фільмам я не сустракаўся ні ў Беларусі, ні ў Расіі.

Дадаў, аднак:

— Я не з’яўляюся прыхільнікам гэтага фільма. Я люблю псіхалагічныя фільмы, але не такія жорсткія. Больш цікавым з’яўляецца душэўная, чым фізічная траўма. У гэтым фільме сітуацыя ў Беларусі зводзіцца да сітуацыі ў арміі, яна згушчана. Усё, што на самой справе адбываецца ў Беларусі, мае яшчэ больш цяжкае вымярэнне.

Алесь Малчанаў таксама распавёў, як трапіў у «Антыгону».

— Выпадкова. Ва ўсякім выпадку, усё самае лепшае ў жыцці сустракае мяне выпадкова. Я быў летам упершыню раз на «Басовішчы». Там мая сяброўка, дырэктарка незалежнага мінскага «Korniag Thetare» Маруся Дашук пазнаёміла мяне з Агнешкай Карыткоўскай-Мазур і Мацькам Заклічынскім (харэографам «Антыгоны» — М. Х.). Мы гулялі ў настольную гульню, дзе трэба выявіць сябе і Агнешка вырашыла, што я «свой». Я прымаў удзел у шасці-сямі рэпетыцыях. Мне давялося вывучыць польскую мову. Усе пры гэтым спектаклі ставіліся да мяне з такой любоўю, што я не заўважыў, як узнікла роля.

Дадаў:

— Падчас першага прадстаўлення, у Крынках, ігралася мне лепш. Былі там бабулі і дзядулі, якія памяталі тое, аб чым мы расказваем. Яны адчувалі гэты спектакль і нарастала кранаючая цішыня, асабліва калі згасла святло.

Пры нагодзе ён прызнаўся, што захоплены Лявонам Тарасэвічам, які для «Антыгоны» ствараў сцэнічнае афармленне:

— Я такога чалавека не сустрэў у сваім жыцці. Ён вельмі шчыры.

Калі спыталіся ў Малчанава, ці лепш ён іграе злыдняў ці пазітыўных герояў, ён адказаў:

— Лягчэй іграць гада. Для подласці трэба заўсёды знайсці нейкае простае апраўданне. Добрых людзей іграць больш складана.

У канцы сустрэчы адзначыў:

— Мне вельмі падабаецца, што ў Мінску, але не толькі ў беларускай сталіцы, беларуская мова становіцца моднай.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — пагаворку.

1. „залатая” пара года і... веку = 12 _ 11 _ 19 _ 26 _ 27 _ 28 _;
2. выводзіць гніды = 17 _ 16 _ 14 _;
3. узорысты варсісты выраб, якім упрыгожваюць падлогу = 24 _ 23 _ 22 _ 21 _ 20 _;
4. першая жанчына = 8 _ 6 _ 7 _;
5. жэрдка на кроквах пад чарапіцу = 1 _ 2 _ 15 _ 13 _;
6. зарослая дрэвамі і заселеная дзікай звярынай прастора = 10 _ 18 _ 9 _;
7. сінтаксічная канструкцыя з дзейнікам і выказнікам = 3 _ 4 _ 5 _ 25 _.

(ш)

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| | | | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | | | | | 14 | 15 | 16 |
| | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| | | | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 38 нумара**

Пяшчота, Дунай, рух, Туронак, дым, Ева, Дарый, нейтрон, сто, шынель, хрэн, бой, яма, свет.

Рашэнне: **Дурны той хто дае, а дурнейшы той хто не бярэ**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

## 27.10 — 02.11

**(22.03. — 20.04.)** Чакае цябе шмат спраў і праблем, якія прынясуць толькі добрае. Пагадзіся прыняць дапамогу збоку. Не бойся задзейнічаць уплывовых сяброў і сваякоў. Калі ў аўторак да паўдня ў цябе моцна звяло курчай нагу, хутка будзе далёкая дарога. На сераду заплануй сустрэчу з прадстаўнікамі дзяржаўных і кантрольных інстанцый.

**(21.04. — 21.05.)** Нядзеля — вырашальны дзень; менавіта цяпер вялікая верагоднасць сустрэць чалавека з самых салодкіх сноў. Выкарыстоўвай свае творчыя здольнасці, каб знайсці новыя ідэі і напрамкі дзейнасці. Любое супрацоўніцтва можа зараз аказацца вельмі выгадным. Рыхтуйся да сустрэч з новымі людзьмі і да раманаў. Увесь тыдзень — добры час для змены месца жыхарства, для набыцця або пачатку будаўніцтва новага дома. У пятніцу нечаканыя выдаткі.

**(22.05. — 22.06.)** Чым бы ты ні займаўся на гэтым тыдні, твае старанні не прападуць. Любая рызыка будзе апраўдана і прынясе спрыяльны вынік. Выгадныя здзелкі з нерухомасцю. Лепшыя дарадчыкі — інтуіцыя і ўяўленне. У аўторак давядзецца ўзяць на сябе адказнасць за калектыў. У чацвер выкарыстоўвай па максімуме ўсе свае рэзервы і сілы, каб атрымаць тое, што табе прызначана лёсам.

**(23.06. — 23.07.)** Не дазваляй сваім пачуццям перашкаджаць прафесійнай дзейнасці. Магчымыя ўчынкі, якіх будзеш шкадаваць. Пазбягай месц вялікай колькасці людзей і масавых мерапрыемстваў. У панядзелак трымай вушкі вярхом, каб не апынуцца на кручку ў злодзеяў і ашуканцаў. Не еж у поцемках, інакш твае дзеці стануць злодзеямі. Пазбягайце новых знаёмстваў у аўторак. Бліжэй да выхадных у тваім асяроддзі могуць адбыцца змены.

**(24.07. — 23.08.)** Не пазычай на гэтым тыдні грошай. У многіх справах маеш значны шанц на поспех у аўторак і ў чацвер. У сераду будуць паспяховымі новыя знаёмствы і паездкі. У суботу твая стрыманасць можа быць успрынята блізкім чалавекам як няўвага, што прывядзе да непаразуменняў і крыўд.

**(24.08. — 23.09.)** Гэты тыдзень пройдзе без асаблівых падзей і здарэнняў. Наступае не лепшы час для прапановы рукі і сэрца каханай асобе, а таксама для заключэння якіх-небудзь саюзаў і аб’яднанняў. Адкладзіце на потым любыя рашэнні, якія тычацца твайго асабістага жыцця. Серада — вельмі спрыяльны дзень, які абяцае вам спакой і раўнавагу ва ўсіх сферах жыцця. Чацвер: каб увесь наступны год побач з вамі была ўдача, будзь асабліва ветлым са старымі.

**(24.09. — 23.10.)** Нечаканыя падзеі зробяць тваё жыццё цудоўным. Не губляй пільнасці: цяпер маеш шанц набыць нешта новае ў сваім жыцці. Не вяртай у панядзелак ніякіх даўгоў, інакш пазней будзе іх удвая больш. Калі ў аўторак забудзешся зашпіліць гузік ці маланку або завязаць шнуроўку, чакаюць няўдачы ў творчых справах. У сераду адкрыецца шмат новых і цікавых магчымасцей.

**(24.10. — 22.11.)** Твае мінулыя перакананні стануць малаважнымі, пачнеш імкнуцца да новых мэт. Усе разумныя ідэі, якія прыйдуць табе ў галаву на гэтым тыдні, рэалізуй. У прафесійнай сферы з’явяцца новыя перспектывы развіцця; варта толькі прыкласці некаторыя высілкі, і ўсё пойдзе як па масле. Чацвер — не найлепшы дзень для куплі дарагіх рэчаў.

**(23.11. — 22.12.)** Не абяцай большага, чым можаш зрабіць, нават калі да гэтага будуць цябе прымушаць, бо страціш сваё фінансавае і сацыяльнае становішча. Калі гэта магчыма, перакладзі ўсе свае абавязацельствы на чужыя плечы. Не купляй у аўторак хатніх жывёл. Справы ў сераду пройдуць на рэдкасць удала.

**(23.12. — 20.01.)** Адкрыюцца новыя магчымасці, твае даходы пачнуць расці. Атрымаеш перавагу над іншымі. Рыхтуйся да грамадскіх і дзелавых сустрэч. Засяродзься на справах і даходных прадпрыемствах ды трымайся ў баку ад эмацыйных канфліктаў.

**(21.01. — 19.02.)** Адазвецца стары канфлікт. Паспрабуюць вывесці цябе з раўнавагі. Трымайся здалёк ад непрыемных людзей. Бізнесменаў чакаюць непрыемныя сюрпрызы з боку дзелавых партнёраў і канкурэнтаў. У аўторак не выключана нечаканая дзелавая прапанова ці сустрэча з даўнім партнёрам па бізнесе. Пятніца — паваротны дзень, які можа шмат што змяніць у жыцці.

**(20.02. — 21.03.)** Нейкія даўно забытыя падзеі зноў нагадаюць пра сябе. Сустрэчы з даўнімі знаёмымі. Не грэбуй сваімі абавязацельствамі: абяцанае выканай. Калі ў панядзелак у рукі трапяць табе вельмі старыя рваныя грошы, гэта абяцае табе дасягненне поспеху звязанае з нейкім небяспечным мерапрыемствам. У сярэдзіне тыдня чакай нечаканасцей. У бізнесе сяброў маецца для цябе вельмі выгадная вакансія.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7:00 – 18:00. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 350 egz.

Зоя Майстровіч з Рудутаў Арлянскай гміны часта прымае ўдзел у майстар-класах па саломапляценню. У час сустрэч знаёміць таксама са сваёй паэзіяй, мясцовымі легендамі і песнямі. Дома выплятае з саломы, а ў вольны час піша вершы для сямейнікаў і наступных пакаленняў. Спадарыня Зоя асабліва любіць спатыкацца з моладдзю, якой расказвае аб колішнім жыцці, чытае свае вершы і перадае свае ўмеласці па саломапляценню. Апошнімі гадамі стала яна пастаянным госцем Музея малой айчыны ў Студзіводах, часта пабывала ў Цэнтры адукацыі і прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах. 4 кастрычніка сустрэча з Зояй Майстровіч была наладжана ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы, на якую прыйшлі вучні чацвёртага класа Падставовай школы № 6 у Гайнаўцы, разам з іх настаўніцай беларускай мовы Людмілай Грыгарук. Спатканне, у час якога Зоя Майстровіч пазнаёміла сабраных са сваімі вершамі і «Легендай аб Антонавай грушы», а таксама вучыла саломапляценню, было арганізаванае музейнай бібліятэкаркай Анджалінай Масальскай у рамках праекта «Кірыліцай пісанае», у ходзе якога ладзяцца спатканні з беларускімі пісьменнікамі, гісторыкамі і іншымі творчымі асобамі, што карыстаюцца кірыліцай у сваёй працы або асабістым жыцці.



Спадарыня Зоя Майстровіч вядзе цікавыя заняткі па беларускай мове і саломапляценню (злева Анджаліна Масальская і Людміла Грыгарук)

# Зоя Майстровіч

## вучыла беларускай мове і саломапляценню

Анджаліна Масальская на адкрыцці сустрэчы сказала многа цёплых слоў аб паэтэсе і рукадзельніцы Зоі Майстровіч. Звярнула яна ўвагу на яе паэтычны талент, ангажаванасць у збіранні песеннага фальклору і захоўванні рукадзельнай традыцыі.

—Я бачу, што вучні ахвотна слухаюць, калі спадарыня Зоя чытае свае вершы, расказвае пра мінулае. Паглядзіце, з якой ангажаванасцю дзеткі вучацца саломапляценню, — заявіла Анджаліна Масальская. — Мой сын Міхал, чацвёртакласнік, вельмі любіць заняткі па беларускай мове і з нецярплівасцю чакаў сённяшняй сустрэчы. Ён любіць ручныя работы, хоча навучыцца плесці з саломы і нават рашыўся купіць выраб з саломы ў нашую хату.

— Мне цікавыя ўрокі беларускай мовы, у час якіх мы чытаем вершыкі, апавяданні, вучымся спяваць па-беларуску. Сёння я хачу навучыцца выплятаць з саломы, — заявіў Міхал Масальскі.

Ванда Гіншт расказала пра выступленні на сцэне з гайнаўскім вакальным калектывам «Малое ГДК». У час беларускага свята, наладжанага ў мінулым школьным годзе ў «шасцёрцы», яна самастойна праспявала песню «Беларусь мая».

— Пані Майстровіч цікава расказвае. Яе вершы нам таксама падабаюцца. Цікавыя вершы, казкі і апавяданні чытаем таксама на ўроках беларускай мовы, — сказалі Ася Хомчук і Магда Ціханюк, якія ў сваёй школе рыхтуюцца да пастаноўкі казкі «Каза-манюка». Разам з іншымі аднакласнікамі вучацца яны роднай мове з першага класа падставовай школы і рашыліся выкарыстаць свае акцёрскія ўмеласці. Ася будзе іграць дзеда, а Магда — казу-манюку.

— Я вельмі люблю спатыкацца з дзеткамі, бо яны такія *файныя* і мілыя. У іх свая моладасць і сваё ўяўленне жыцця. Сёння вучні так уважліва выслухалі мае вершы і «Легенду аб Антонавай грушы», — заявіла Зоя Майстровіч.

Першую частку сустрэчы можна было назваць урокам беларускай мовы, бо дзеткі слухалі аповеды і вершы на беларускай літаратурнай мове. У сваіх вершах спадарыня Зоя расказвае пра вясковае жыццё ў мінулым і цяпер, піша аб сваім жыцці, апісвае розныя поры года. У белмузеі прачытала на беларускай літаратурнай мове свае вершы аб прыродзе і дзяцінстве.

— Беларускай мове я навучылася ад сваёй мамы, якая родам з Гродзеншчыны і дома гаварыла толькі на чыстай беларускай мове. Вучылася я пісаць па-беларуску ў школе ў Саках, але гэта было ўжо даўно. Пішучы вершы, я нанова ўспамінала беларускі правапіс і старалася рабіць штораз менш памылак. Далічылася я, што напісала больш за 920 вершаў і пішу новыя. Я люблю апісваць прыроду ў розныя поры года. Цікава апісваць лес засыпаны снегам, прыроду вясной, калі яна абуджаецца да жыцця і наваколле летам і восенню, — успамінала Зоя Майстровіч.

Паэтка нарадзілася ў 1952 годзе ў вёсцы Тапаркі. З 1970 года, выйшаўшы замуж, стала жыць у Рудутах. Вершы пачала пісаць толькі ў 2007 годзе, калі перайшла на пенсію. Піша на беларускай літаратурнай мове, па-польску і на дыялекце.

Падчас спаткання ў музеі спадарыня Зоя заахвочвала дзетак вучыцца роднай беларускай мове і старацца размаўляць па-свойму, на мове, якой карыстаюцца яшчэ іх бабулі, а то і бацькі.

— Я ўмею гаварыць па-свойму, так як дома размаўляюць мае бацькі, а ў Чыжках гавораць мае бабулі і дзядулі. Насіў я вершы на польскай мове, але калі трэба, то і па-беларуску магу напісаць, — заявіў Давід Ціханюк, які стаў размаўляць са мной па-беларуску, прымяняючы словазлучэнні, характэрныя чыжоўскаму дыялекту.

— Дзеткам вельмі падабаецца спатканне з Зояй Майстровіч, — заявіла Людміла Грыгарук, настаўніца беларускай мовы ў «шасцёрцы». — У нашым Комплексе школ № 3 у Гайнаўцы (у яго састаў уваходзіць ПШ № 6 — А. М.) каля 160 вучняў ходзіць на заняткі беларускай мовы, што састаўляе пад трэцюю частку ад агульнай колькасці ўсіх вучняў. Я лічу гэта нядрэнным вынікам, як на гайнаўскія ўмовы, дзе мы па колькасці навучэнцаў беларускай мовы саступаем толькі Гайнаўскай белгімназіі. У яе паступае таксама многа выпускнікоў нашай падставовай школы, што канешне адмоўна ўплывае на колькасць навучэнцаў беларускай мовы ў нашай гімназіі.

У другой частцы спаткання адбыліся майстар-класы па саломапляценню, у час якіх спадарыня Зоя расказвала пра пляценне з саломы, паказвала свае вырабы, якія можна было таксама купіць, і вучыла падставам выплятання. Прывезла яна з сабою некалькі іголак да саломы і дзеткі пад яе наглядам на змену вучыліся плесці, што атрымлівалася ім нядрэнна. Першым пачаў удала плесці з саломы Андрэй Бабулевіч.




Першым пачаў удала плесці з саломы Андрэй Бабулевіч

— Мне вельмі падабаецца пляценне з саломы і я рады сённяшнім заняткам. Цікава было таксама паслухаць вершаў, — гаварыў Андрэй Бабулевіч, які ў «шасцёрку» даязджае з Новага Беразова.

— Каб навучыць самастойна выплятаць з саломы, трэба вучыць дзетак больш часу. Трэба падысці да кожнага вучня і папрацаваць з ім самастойна. Тут я вучу іх толькі самым неабходным падставам, але гэта таксама карысна ведаць. Калі б некаторыя з вучняў зацікавіліся саломапляценнем, могуць у будучыні навучыцца рабіць гэта ў час даўжэйшых майстар-класаў, — сказала спадарыня Зоя.

Зараз у школах мала вучаць ручным работам і таму рукадзельныя заняткі ў белмузеі былі асабліва цікавымі гайнаўскім дзеткам. Аднак у «шасцёрцы» ёсць свая «Рэгіянальная ізба», дзе вучні знаёмяцца з даўнімі прыладамі працы, вырабамі з мінуўшчыны і некаторымі ручнымі работамі, якімі займаліся ўмоладасці іх прабабулі, а можа нават і бабулі.

— Асабліва ахвотна займаюцца ў нашай ізбе наймалодшыя дзеткі, якім цікавыя многія нашыя экспанаты, сабраныя супольнымі сіламі. Мы праводзім там заняткі па беларускай мове, бо вучням цікава, калі заняткі практычна, а не толькі па кніжках. Стараемся хадзіць на экскурсіі ў Гайнаўскі белмузей з вучнямі розных класаў, бо тут дзеткі знаёмяцца з пастаяннымі музейнымі выставамі і больш падрабязна знаёмяцца як жылі нашыя продкі. Нашыя вучні ахвотна прымаюць удзел у «Мастацкіх сустрэчах школьнікаў», якія арганізуе ў музеі настаўнік беларускай мовы Янка Карчэўскі і вельмі ахвотна прыходзілі на музейныя ёлачныя мерапрыемствы, якія ладзіла Наталля Герасімюк. У нашай школе таксама стараемся цікава весці заняткі па-беларускай мове, каб як найбольш дзетак заахвоціць вучыцца беларускай мове. Супольна з вучнямі мы спяваем, гуляем, дэкламуем. У нашай школе я вяду два гурткі беларускай мовы, на якіх мы рыхтуем, між іншым, беларускія прадстаўленні. Іншая настаўніца беларускай мовы Беата Кендысь вядзе танцавальны гурток, — расказвала Людміла Грыгарук.

У канцы спаткання дзеткі падзякавалі спадарыні Зоі Майстровіч за цікавыя заняткі па беларускай мове і саломапляценню.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

ISSN 0546-1960